

# НАША СЛОВА

*Культурна-асветніцкая штотыднёвая беларуская газета*

(Выходзіць з сакавіка 1990 г.) **№ 4 (320)** 23 — 29 студзеня 1997 г. Кошт -- 1500 рублёў



## ПОСТУП ТЫДНЯ



○ **У друку з'явіўся ўказ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь "Аб зацвярджэнні саставу Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь".** Выконваючым абавязкі прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь прызначаны С. Лінг. Першым намеснікам прэм'ер-міністра — П. Пракаповіч, намеснікамі прэм'ер-міністра — У. Гаркун, В. Далгалёў, В. Кокараў, У. Русакевіч. Кіраўніком Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь прызначаны М. Мясніковіч. Міністрам культуры стаў А. Саснoўскі, міністрам адукацыі — В. Стражаў, старшынёй Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку — У. Бельскі.

○ ***З кіраўнікамі Беларускага таварыства на культурных сувязях з суайчыннікамі за мяжой "Радзіма", аб'яднання беларусаў свету "Бацькаўшчына" і шэрагу іншых грамадскіх аб'яднанняў нашай краіны**, якія вядуць работу з беларускай дыяспарай, сустрэўся намеснік прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь Уладзімір Русакевіч. На сустрэчы размова ішла аб паляпшэнні інфармаванасці нашых суайчыннікаў за мяжой аб жыцці Беларусі, а таксама аб узмацненні дзяржаўнай падтрымкі беларускай дыяспары ў галіне культуры і адукацыі, абароны грамадзянскіх правоў.*

○ **Міністр замежных спраў Беларусі Іван Антановіч у свaім першым інтэрв'ю на новай пасадзе на пытанне:** "Ці мае каштоўнасць суверэнная беларуская дзяржаўнасць і яе атрыбуты, якімі мы карыстаемся апошнія пяць гадоў" — сказаў журналісту: "Безумоўна. Я хацеў бы вам прывесці адзін момант з нашай размовы з Прэзідэнтам. Ён сказаў мне такія словы: "Беларусь я нікому, ніколі, нідзе не дам у крыўду". Гэта адказвае на ваша пытанне, бо гэта азначае, што Беларусь будзе свабодная, суверэнная, яна будзе выбіраць свой лёс сама, як і сваіх саюзнікаў". Добра было б, каб гэтымі словамі і далей кіраваліся ў сваіх справах кіраўнікі нашай дзяржавы.

○ ***Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь прыняў прапанову ўрада** аб падпісанні ад імя беларускай дзяржавы Еўрапейскай канвенцыі аб агульнай эквівалентнасці перыядаў універсітэцкага навучання 1990 года. Падпіша гэтую канвенцыю міністр адукацыі Васіль Стражаў.*

○ **У друку з'явілася інфармацыя,** што існуюць рэкамендацыі Адміністрацыі Прэзідэнта і Міністэрства адукацыі па рэарганізацыі факультэта журналістыкі. Паводле дакумента, ужо з гэтага года намячаецца перайсці на новую сістэму падрыхтоўкі журналісцкіх кадраў. Цяпер умовай атрымання спецыяльнасці "журналіст" стане ўжо не сярэдняя, а вышэйшая адукацыя.

○ ***Старшынём праўлення Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь прызначаны Генадзь Алейнікаў.** А вось яго наступніца Тамара Віннікава знаходзіцца пад следствам.*

○ **Лаўрэатам Міжнароднага конкурсу пачынаючых кампазітараў "Гімн вялікаму гораду",** які адбыўся ў Санкт-Пецярбургу, стала 12-гадовая школьніца з Ліды Дзінара Мазітава. Вось гэта сюрпрыз! Віншуем!

Падрыхтаваў В. Ш.

## З Украінай сябраваць стратэгічна важна

У Гомелі 17 студзеня г.г., як вядома з інфармацыйных паведамленняў, адбылася рабочая сустрэча Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі і Прэзідэнта Украіны Леаніда Кучмы. У ёй таксама ўзялі ўдзел шмат якія высокія чыноўнікі прэзідэнцкіх адміністрацый, міністэрстваў і ведамстваў абедзвюх краін.

У часе прэс-канферэнцыі для журналістаў перад афіцыйным пачаткам сустрэчы высокіх кіраўнікоў абедзвюх краін прэзідэнты выказалі свае меркаванні на тое, як павінны будавацца доўгатэрміновыя адносіны паміж Беларуссю і Украінай. Прэзідэнт Леанід Кучма прыгадаў, што ён родам з украінскай вёскі, якая знаходзіцца непадалёк ад мяжы з Гомельшчынай. Ягоныя землякі заўсёды лічылі вельмі важным сябраваць са сваімі беларускімі суседзямі. Украіна і Беларусь — спрадвечныя суседзі, працягваў ён, і вельмі важна, што ў адносінах паміж намі ў асноўным усё добра. І галоўная задача сустрэчы на высокім узроўні — і надалей ісці насустрач адзін аднаму, ухіляючы асобныя перашкоды на гэтым шляху.

Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка, пагадзіўшыся з гэтай думкай, звярнуў увагу на раўнапраўнасць стасункаў паміж Украінай і Беларуссю.

Назіральнікі адзначалі, што адной з прычын гэтай сустрэчы была сур'ёзная занепакоенасць Украіны ў сувязі з заявай Прэзідэнта Расіі Барыса Ельцына аб уваходжанні Беларусі ў саюз з Расійскай Федэрацыяй. У кіруючых колах Украіны нават пачалося абмяркоўвацца пытанне аб далучэнні ў такім выпадку да ваеннага Паўночна-атлантычнага блоку. Трэба спадзявацца, што бакі грунтоўна высветлілі свае стратэгічныя пазіцыі, урэшце падпісанае Камюніке аб выніках сустрэчы, дзе звернута асаблівая ўвага на далейшае ўсебаковае развіццё дружалюбных узаемавыгадных адносін паміж Беларуссю і Украінай.

Л. М.

## У "ПРУСКАЙ ВАЙНЕ "(1516 г.) ЗГАДАНАЯ БЕЛАРУСЬ

У гасцёўні Уладзіслава Галубка ў Менску (Траецкае прадмесце) сабралася сталічная інтэлігенцыя, каб урачыста згадаць магістра Яна Вісліцкага і ягоную "Прускую вайну".

Што ведаюць у нас пра гэта? Шчыра сабе прызнаемся — пакуль малавата. А паміж тым у гісторыі старажытнай беларускай літаратуры гэты паэт-лацініст і ягоны твор займаюць адметнае месца, гаварылася на вечарыне ў гасцёўні Ул. Галубка.



ЯН ВІСЬЛІЦКІ

~ 1485 — пасьля 1516

Часам у навуковай літаратуры паэта называюць Янам з Вісліцы. Ён скончыў Ягелонскі універсітэт у Кракаве, у якім пазней — у 1510 — 12 гг. быў выкладчыкам. У рэктарскіх актах пазначаны як "русін". Памёр у 20-я гады XVI стагоддзя.

"Пруская вайна" ("Bellum Prutenum") прынесла магістру Яну Вісліцкаму еўрапейскую вядомасць. Упершыню паэма надрукаваная ў Кракаве ў 1516 годзе, раней, чымся знакамітая "Песня пра зубра" Міколы Гусоўскага. Так што паэме сёння — 480 гадоў!

Але "Прускай вайне" беларускімі перакладчыкамі было нададзена чамусьці значна менш увагі. У выніку мы сёння не маем поўнага, належнага перакладу паэмы па-беларуску. Дарэчы, урывак з яе публікаваўся ў "Нашым слове" (1995, № 23 — 24, с. 12; № 28, с. 7) у перакладзе Якава Парэцкага.

У першай частцы паэмы гаворка ідзе пра старажытнае мінулае Польшчы, у другой — тэма Грунвальдскай бітвы. Паэт услаўляе вяроў, усведамляючы гістарычнае значэнне перамогі ў гэтай бітве славянаў і балтаў, пільную патрэбу ваенна-палітычнай еднасці якіх у варунках пагрозы вайны ён бачыў. У творы спаміж усяго паўстаюць вобразы Вітаўта і Ягайлы, прыгадваюцца Клецкая (1506) і Аршанская (1514) бітвы. Вельмі важнае для нас — згадкі ў паэме пра Белую Русь і беларусаў. У навуковай літаратуры адзначаецца: "У паэме "Пруская вайна" Яна з Вісліцы і ў "Хроніцы" Стрыйкоўскага сустракаецца вельмі рэдкае ў тагачаснай літаратуры ўпамінанне этнічнай катэгорыі "беларусаў" (Нарысы гісторыі Беларусі. У 2-х ч. Ч. 1).

Паэма стаіць ля вытокаў жанру гістарычнай эпапеі адначасна і ў беларускай, і ў летувіскай, і ў польскай літаратурах. Ян Вісліцкі — пачынальнік літаратурнай традыцыі, прадаўжальнікі якой — Мікола Гусоўскі, Мацей Стрыйкоўскі, Адам Міцкевіч. Разам з тым, у паэме заўважаюцца ўплыў антычнай міфалогіі, праявы традыцыяў беларускага народнага эпасу, развіццё мастацкіх традыцыяў "Слова пра паход Ігаравы".

У часе вечарыны ў гасцёўні Ул. Галубка, прысвечанай 480-м угодкам выдрукоўкі паэмы "Пруская вайна", была арганізаваная таксама выстава мастацкіх твораў. Спаміж экспанатаў — карціны з паказам Аршанскай і Грунвальдскай бітваў, партрэт Яна Вісліцкага, працы мастака Яўгена Куліка, публікацыі пра слаўнага паэта-лацініста... На вечарыне чыталіся і радкі з паэмы "Пруская вайна", гаварылася пра сам твор і значэнне для нас Яна Вісліцкага, закраналіся гістарычныя моманты. На фартэпіяна і фагоце артысты натхнёна выканалі музычныя творы сярэднявечча.

Генадзь КАЖАМЯКІН.

*Да 600-годдзя пасялення татараў на землях Беларуска-Літоўскай дзяржавы (ВКЛ)*

## "ЛІЧАЦЬ НАС БРАТАМІ СВАІМІ"

Лёс распарадзіўся так, што да бальшавіцкага перавароту татарам жылося ў нас крыху лепш, чым прадстаўнікам карэннага насельніцтва — яны стаялі на вышэйшай прыступцы ў грамадстве. Вялікі князь Вітаўт запрасіў татараў на службу ў Вялікае Княства Літоўскае ахоўваць дзяржаўныя межы. І з таго часу татары верай і праўдай служылі новай айчыне і ніколі паміж імі і беларусамі не было звадак. Мала таго: татары выступалі нават супраць сваіх адзінаверцаў, калі тыя прыходзілі з іншых краін, каб рабаваць памежныя тэрыторыі Вялікага Княства. У Літоўскай метрыцы захаваўся іх ліст да захопнікаў наступнага зместу: "Ні Бог, ні Прарок не дазваляюць вам рабаваць, а нам быць няўдзячнымі. Мы лічым вас за драпежнікаў і шаблямі нашымі забіваем рабаўнікоў, а не братоў нашых. Заставайцеся за Волгаю.., бо мы ля Вільні будзем крoў праліваць за літоўцаў, якія лічаць нас братамі сваімі". Вядома таксама, што ў Грунвальдскай бітве татарскія харугвы біліся побач з беларускімі, а ў час вызваленчых рухаў на Беларусі ў 1794, 1833, 1863 гг. многія татары былі на баку паўстанцаў, за што цяжка пляціліся.

Даследчык татарскай гісторыі А. Мухлінскі ў сваёй працы "Исследование о происхождении и состоянии литовских татар" (1857) пісаў, што заканадаўцы раўняла татараў з дваранамі. Іх надзялялі льготамі і маёнткамі, якія пераходзілі ў спадчыну да нашчадкаў, за што патрабавалася ад іх ладзіць ваенныя паходы за свой кошт. А. Мухлінскі дае наступную характарыстыку этнічна-маральнаму вобліку татараў: "Яны ў большасці выпадкаў высокага росту, стройныя, чарнавалосыя, смуглатварыя, з правільнымі рысамі твару і высакароднья ў абыходжанні, разважлівыя ў размовах, гасцінныя, рахманыя, стрыманыя. Словам, не падобныя зусім да мангольскіх плямёнаў. У маральных адносінах яны сумленныя, добрыя, ласкавыя, жывуць у згодзе з іншымі жыхарамі, але не зліваюцца з імі. Амаль ніколі не былі выкрытыя ў крымінальных злачынствах. У хатнім побыце яны міралюбівыя, рэдка паміж сабой сварацца і варагуюць".

Акрамя вяроў, беларускія (літоўскія) татары былі і чыноўнікамі, і земляробамі, і агароднікамі, і каняводамі. У XIX стагоддзі, напрыклад, у Менску, дзе колькасць татараў даходзіла да чатырохсот душ, татары-каняводы валодалі на берагах Свіслачы сенажацямі. У Пінску яны выраблялі саф'ян са скуры, у Вільні прадавалі палатно і ніткі, у Наваградку займаліся возніцтвам. Вядома, што ў савецкі час многія татары працавалі гарбарамі. Мужнасцю, бескарыслівасцю, шанаваннем законаў праславіліся многія татарскія дваранскія роды на Беларусі, да якіх адносіліся Адамовічы, Базарэўскія, Барановскія, Беляковы, Бучацкія, Сабалеўскія, Сульковічы, Халецкія, Юзефовічы, Янушэўскія. Шляхта-татары былі людзьмі адукаванымі, некаторыя з іх, акрамя еўрапейскіх моў, ведалі арабскую і сваю родную — як знак інтэлігентнасці і самапавагі. Некаторыя канчалі медрэсэ — духоўныя вучылішчы.

Рэлігійнае і традыцыйнае жыццё татараў ва ўсе часы, акрамя савецкіх, не прыгняталася. Гэты народ жыў абшчынамі, маліўся ў сваіх мячэцях (джалі), вучыўся ў хатніх школах арабскаму пісьму і ісламу, меў і шанаваў свае магільнікі (мізары), захоўваў доўгі час свой нацыянальны строй. Па сведчанні П. Шпілеўскага, у сярэдзіне XIX стагоддзя касцюм татарскага мужчыны нагадваў касцюм

(Заканчэнне на стар.3.)

**Чытачы пра газету**

## ДЛЯ ШКОЛЬНІКАЎ МАТЭРЫЯЛАЎ ТРЭБА БОЛЕЙ

Нельга не адзначыць, што "Наша слова" вельмі прыбавіла ў прафесіяналізме, займела свой вельмі прыемны твар, у значнай меры стала адпавядаць патрабаванням часу. Пайшлі на чытацкую карысць структурныя змены зместу артыкулаў. Але мяжы ўдасканальвання няма. Думаю, плюсам для газеты было б павелічэнне колькасці матэрыялаў для школьнікаў. Далейшыя тэматычныя змены ў газеце, безумоўна, будуць і таму, што цяпер яна займела новых сузаснавальнікаў.

**Леанід ГАРАВЫ, настаўнік.**
м. Гарадок.

# "СЯБРЫ НАШАГА РУХУ ГЛЯДЗЯЦЬ УПЕРАД"

*У час, калі адны грамадскія арганізацыі губляюць уплыў на масавую свядомасць ды на лёсы грамадства і дзяржавы, гэты ўплыў пачынаюць набываць іншыя і сярод іх — грамадскі рух "Наш дом — Беларусь". Прапануем увазе чытачоў гутарку нашага карэспандэнта з адным з яго стваральнікаў Уладзімірам Падголам.*

*Напачатку — кароткія звесткі пра яго. Нарадзіўся ў 1952 годзе. Вышэйшую адукацыю атрымаў у БДУ, там жа скончыў аспірантуру. Навуковая ступень — дацэнт, кандыдат філасофскіх навук. Тэма кандыдацкай дысертацыі — "Прынцып дзейнасці і станаўлення дыялектычнай традыцыі сістэматызацыі катэгорый філасофіі". Выкладаў філасофію ў Віцебскім педагагічным інстытуце. Займаўся выбарчымі тэхналогіямі. Нядаўна звольнены з дактарантуры БДУ, дзе пісаў дысертацыю "Структура і прыярытэты сацыяльна-палітычнай дынамікі посттаталітарных грамадстваў". Мае двое дзяцей — 16 і 20 гадоў.*

**— Рух "Наш дом — Беларусь" быў створаны ў час, калі ўплыў грамадскіх і палітычных арганізацыяў зменшыўся...**

— Чаму не мае значнага ўплыву на грамадства ніводная з палітычных партыяў ці грамадскіх арганізацыяў Беларусі? Прычына таму простая — ім папросту не вераць. Недавер да палітыкаў стаў часткаю менталітэту беларусаў, у вуснах большасці з якіх словы "партыя" ці "партыйны" гучаць амаль, як лаянка. Звярніце ўвагу: чалавек, які стаў першым Прэзідэнтам Беларусі, партыйнымі лозунгамі не карыстаўся. Больш таго, ён падкрэсліваў сваю беспартыйнасць, перад прэзідэнцкай кампаніяй дэманстратыўна адмовіўшыся ад падтрымкі нават блізкага яму поглядамі "Славянского собора" і заявіўшы, што галоўнае — выкананне не партыйных загадаў, а волі народа.

Рэч у тым, што сродкі і метады, якімі карыстаюцца людзі, што называюць сябе беларускімі палітыкамі, прынцыпова неадпаведныя ладу думак большасці нашых суайчыннікаў. Паглядзіце, якую тэрміналогію яны выкарыстоўваюць: "незалежнасць", "суверэнітэт", "рынкавая эканоміка", "правы асобы", "грамадзянская супольнасць"... Сэнс гэтых словаў папросту незразумелы большасці нашых людзей. Выхаваныя савецкай сістэмай, яны надаюць гэтым лозунгам цалкам іншае, адмоўнае значэнне. У значнай ступені гэтаму спрыяла і спрыяе стаўленне да згаданых мною паняццяў дзяржаўнага кіраўніцтва.

У свядомасці большасці беларусаў існуюць ідалы — суб'екты, якія маюць адмысловую ўласцівасць рабіць тое, што не ў стане зрабіць іх носьбіты. І людзі шукаюць сваім уяўленням адпаведнікаў у жыцці. Яны перакананыя: існуе асоба, здольная цудоўным чынам здзейсніць тое, аб чым яны мараць, — Бог, цар, герой... Яны імкнуцца адшукаць гэтага ідала, каб перадаць яму свае мары і ўскласці на яго адказнасць за іх выкананне, даўшы яму неабмежаваныя правы і магчымасці.

Носьбіты гэткай свядомасці — людзі таталітарнага мыслення, звышідалам для якіх была (і ў значнай ступені застаецца) дзяржава. Пасля развалу савецкай імперыі яны, дзеючы несвядома, зрабілі ўсё, каб надаць сваёй краіне ўсе рысы той, у якой яны прызвычаіліся жыць.

І вось дэмакратыя ператвараецца ў "дерьмократию", якая разваліла вялікую краіну і ператварыла мільёны людзей у жабракоў. Словы "грамадзянская супольнасць" — "гражданское общество" — ці не для кожнага чацвёртага беларуса (столькі іх пабывала ў зняволенні) падсвядома звязваюцца выключна са зваротам да лагернага начальніка — "гражданин" і адпаведна — "гражданин, пройдёмте". Свабода робіцца сінонімам уседазволенасці, прыватызацыя ператвараецца ў "прыхватызацыю", рынак нічым не розніцца ад базара, "Народны фронт" гучыць як заклік да вайны супраць народа.

Адэкватна новую тэрміналогію ўспрымае эліта грамадства. Яна ж і карыстаецца ёю. Але ўздзеянне гэткіх лозунгаў на масы хутчэй адмоўнае. Дзякуючы ім за апошнія гады ўшчэнт здыскрэдытавалі сябе ўсялякія партыйныя лозунгі. Гэта дазваляе зрабіць выснову: на працягу бліжэйшых гадоў ніякія палітычныя арганізацыі не будуць мець значнага ўплыву ў нашай краіне. Гэта пацвярджаюць і сацыялагічныя даследаванні.

**— Але ж свабода, дэмакратыя, нацыянальнае адраджэнне, рынкавая эканоміка і іншыя рэчы засталіся не проста лозунгамі, а патрабаваннямі жыцця. Як увесці іх у грамадскую свядомасць?**

— Каб зрабіць гэта, патрэбныя адмысловыя спосабы ўздзеяння на грамадства. І рух "Наш дом — Беларусь" быў задуманы менавіта як падкрэслена непалітычная грамадская арганізацыя, якая здолее прыцягнуць да сябе людзей і зрабіць для іх прывабнымі паняцці "незалежнасць", "свабода" ды іншыя.

Сённяшняя ўлада выкарыстала такія ўласцівасці таталітарнага менталітэту, як ірацыянальнае чаканне цуду, ірацыянальнае жаданне барацьбы з ворагамі-здраднікамі, ірацыянальнае чаканне асілка-народнага героя — іх пераможцы. Яна штучна стварала сабе ворагаў, каб надаць сабе аблічча абаронцы народа ад іх. "Яны ірвуцца да ўлады", "яны не ўлічваюць інтарэсаў людзей" — гэткія абвінавачванні чулі самыя розныя арганізацыі, маючыя адметныя ад урадавых погляды на будучыню нашага краю. Мы, у адрозненне ад палітыкаў, робім усё, каб ідэі нашага руху ніякім чынам не маглі трапіць пад агонь крытыкі. Паспяхова змагацца можна з чым заўгодна, акрамя жадання людзей мець уласны дом. Імкненне яго знішчыць заўсёды сустракала супраціў. Той, хто будуе твой дом, — сябра, а той, хто яго руйнуе, — вораг. І гэтае падсвядомае перакананне кожнага мы імкнёмся перанесці і на наш рух, і на нашу краіну. Палітыкаў вінавацілі ў тым, што яны імкнуцца ўзвесці мяжу паміж намі і суседзямі, а мы прапануем нешта іншае — даць беларускаму дому моцныя сцены, каб агарадзіць людзей ад злачыннасці, увозу зброі ці наркотыкаў з-за мяжы. Гэта важна — усю сваю ідэалогію ствараць хатняй моваю. Усё, што адбываецца ў грамадстве, мы мусім падаваць з гледзішча падзеяў у нашым адзіным доме — Беларусі. Гэта вынікае з патрэбы давесці людзям: мы жывём у адным доме, складаем адну сям'ю і адзін народ, нягледзячы на сваё культурнае і нацыянальнае непадабенства.

Мы ўважліва вывучалі мысленне беларусаў, стварылі яго мадэлі — агульная, з посттаталітарнымі трансфармацыямі, рэгіянальныя. Кожная з іх уключала ў сябе да трох соцень параметраў, каб стварыць ідэалогію, адэкватную сённяшняму менталітэту большасці нашых грамадзян. Рух "Наш дом — Беларусь" стварыўся як яе выказнік. На першы погляд, у ёй няма нічога незвычайнага, рэвалюцыйнага. Але разам з тым у ёй няма нічога такога, з чым можна было б спрачацца, што можна было б крытыкаваць. "Мы — такія ж, як вы. Мы не ходзім на мітынгі. Мы не ходзім на выбары. Мы любім сядзець дома з жонкай і дзецьмі. Мы любім кавалак зямлі, на якім працуем," — гаворым мы людзям. Гэта — наш адказ іншай ідэалогіі, носьбіты якой таксама гавораць: "Мы такія як вы", але ствараюць іншы вобраз — агрэсіўнага і помслівага звышсаўка — аднаўляльніка былой веліч СССР. Мы ж замест ідэалогіі вялікага славянскага дома прапануем ідэю дома малога — Беларусі, дзе кожнаму жывецца ўтульна, заможна і добра.

Беларускія палітыкі на працягу некалькіх гадоў паўтаралі людзям: "Ты — гаспадар свайго лёсу", "Не ўрад, а ты сам здолееш зрабіць усё", "Мы — народ", "Беларусь — спадкаемца вялікіх традыцыяў Вялікага Княства", але ў свядомасці грамадства гэтыя словы не замацаваліся. Слушнасць маіх словаў пацвердзілі вынікі прэзідэнцкіх і парламенцкіх выбараў ды двух рэферэндумаў.

Таму рух "Наш дом — Беларусь" абраў іншы шлях. Мы імкнёмся ў свядомасць грамадзян Беларусі замест савецкіх і постсавецкіх ідэалагем і ідалаў — "інтэгратара", "выканаўцы народнай волі", "змагара" ды іншых, якія сёння замацаваліся ў мысленні масаў, увесці іншыя каштоўнасці. Гэта магчыма рабіць, праводзячы, напрыклад, конкурсы. Яны могуць быць самымі рознымі — дзіцячых малюнкаў, вершаў, расказаў, традыцыйных рамёстваў, народнай кухні... Гэтым простым спосабам у свядомасці людзей ствараюцца новыя вобразы, сімвалічныя функцыянальныя фігуры і ідалы — "гаспадар", "тутэйшы", "мудрэц", "асілак", "абаронца"...

Конкурсы, пра якія я гаварыў, ужо прайшлі ў сталіцы, у Мікашэвічах, Дзятлавічах і ладзяцца яшчэ ў дзесяці розных раёнах. У тых з іх, што праводзяцца для дзяцей, налічваецца да пяці соцень удзельнікаў і сотня-паўтары з іх атрымліваe прызы. Тэмы конкурсаў — "Мой горад", "Мой мікраараён", "Мая радзіма — Беларусь", "Мая сям'я", "Дом маёй мары" — выхоўваюць у дзецях разуменне прыналежнасці да нашага народа, якое захаваецца назаўжды.

**— "Наш дом — Беларусь" — рух абывацеляў?**

— Абывацеляў у тым разуменні, якое існуе ў свеце: людзей, якія цікавяцца найперш праблемамі ўласнага дома. Абывацеляў, якія ментальна і функцыянальна супрацьлеглыя людзям, гімн якіх — "Наш адрас — не дом и не улица, наш адрес — Советский Союз".

Мы ствараем тую альтэрнатыву пануючай ідэалогіі, якую не здолелі стварыць палітыкі. Пазьняк, Багданкевіч, нават Шушкевіч са сваімі лозунгамі адраджэння, рынкавай эканомікі і згоды выглядалі ў вачох постсавецкіх беларусаў як людзі з іншай планеты. А людзей, ідэі і лозунгі якіх незразумелыя носьбітам таталітарнага мыслення, тыя аўтаматычна пераводзяць у шэраг ворагаў.

Мы ствараем альтэрнатыву тым, хто хоча дыктатуры адной асобы. Бо тыя маюць свайго лідэра, а мы прапануем іншага, увасобленага ў вобразе не ваяра, а гаспадара. Мы прапануем не зацыклівацца на адной ідэі, а рабіць свой выбар паміж многімі: арыентавацца не выключна на Усход, а ў выгаднай нам ступені і на Захад, ператварыць Беларусь не ў чужы транзітны калідор, а ў пункт збору мытных падаткаў. Гаспадар, павінны зразумець людзі, не будзе паляпшаць адносінаў з адной краінай за кошт іншых, бо кожны ўкладзены ў нашую эканоміку долар заходніх інвестыцыяў дасць сем долараў зыску. Гэтыя ідэі могуць зразумець усе. У гэтым сэнсе прынцыпам сяброў "Нашага дома" з'яўляецца ідэалагема "Хітрае цяля двух матак ссе".

**— Хто кіруе вашым грамадскім рухам і стварае яго ідэалогію?**

— Ідэі, якія выказвае "Наш дом — Беларусь", фармуляваліся гадамі. А ў канчатковым іх фармуляванні на розных этапах бралі ўдзел Сяргей Антончык, Алесь Астроўскі, Генадзь Грушавы, іншыя людзі, у тым ліку і я.

**— Не выключана, што сёлета ў Беларусі адбудзецца чарговы рэферэндум, вынікам якога стане ўваходжанне Беларусі ў склад Расіі. Ці будзе пасля таго актуальным існаванне вашага руху?**

— Тое, аб чым Вы гаворыце, цалкам магчыма. І нашы, і расійскія ўлады паказалі свае здольнасці правядзення рэферэндуму ламавым спосабам. Увесну рэферэндумы аб аб'яднанні могуць адбыцца ў абедзвюх краінах і вынікі іх прадказаць няцяжка. Што можа адбыцца ў нас? Палітыкі выведуць на вуліцы сталіцы сотню тысячаў нязгодных з лозунгамі "Незалежнасць". Тысячаў пяць выкажуць пратэст у Гародні, некалькі дзесяткаў — у Віцебску і Магілёве — і ўсё, незалежнай Беларусі не будзе.

Але ў падобным выпадку я бачу існаванне руху "Наш дом — Беларусь" адзіным выратаваннем для Беларусі перад канчатковым паглынаннем яе Расіяй. Існаванне нашага руху будзе магчымым нават у Беларусі як расійскай губерні. І ў тых умовах ён мусіць падрыхтаваць "аксамітную рэвалюцыю" накшталт той, што адбылася ў Чэхаславакіі і канчатковым вынікам якой стаў падзел гэтай федэрацыі на дзве незалежныя краіны — Чэхію і Славакію. Бо тое, што адбылося ў федэральнай Чэхаславакіі, пачалося за дзесяцігоддзі да фактычнага адасаблення краінаў, што складалі яе. У іх здаўна існавалі сепаратысцкія нацыянальныя рухі, дзейнасць якіх мусіць быць прыкладам для беларускіх нацыянальных арганізацыяў.

Я не маю ілюзіяў адносна падзеяў, што могуць адбыцца ўжо сёлета ўвесну, хаця і ёсць надзея на тое, што хатняя рэвалюцыя ў Беларусі, калі яе падрыхтаваць адпаведным чынам, адбудзецца якраз пад час тых ламавых інтэграцыйных рэферэндумаў, скіраваных на злом нашага дома — Беларусі.. Але сябры нашага руху глядзяць уперад. Мы перакананыя: людзі, якія будуць усведамляць, што іх дом — маленькая Беларусь, а не вялікая Расія, і, толькі маючы гэты дом, яны будуць пачуваць сябе гаспадарамі, будуць імкнуцца аднавіць гэты дом. Два, пяць альбо дзесяць гадоў жыцця людзей з беларускім самаўсведамленнем у агрэсіўнай, нестабільнай і чужой ім дзяржаве пераканаюць іх у неабходнасці аднаўлення беларускай незалежнасці лепш, чым гады выпадкова атрыманага і не пацверджанага амаль ніяк суверэнітэту. Мы разумеем: Беларусь яшчэ не была домам беларусаў, але яна можа і мусіць ім стаць.

**Гутарыў У.ПАНАДА.**

*Культурна-асветніцкая штотыднёвая беларуская газета*
НАША СЛОВА

*Our Word*
*Unser Wort*
*Naša Słowa*

**Падпісны індэкс 63865**

**ЗАСНАВАЛЬНІК: Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны**

Газета зарэгістраваная ў Дзяржаўным камітэце Рэспублікі Беларусь па друку.
Рэгістрацыйнае пасведчанне **№ 83.**

***Рэдакцыйная калегія:***
Эрнэст ЯЛУГІН — **галоўны рэдактар**

Лявон БАРШЧЭЎСКІ,
Янка БРЫЛЬ,
Анатоль БУТЭВІЧ,
Радзім ГАРЭЦКІ,
Ніл ГІЛЕВІЧ,
Вольга КУЗЬМІЧ,
Уладзімір ЛАМЕКА,
Уладзімір ПАНАДА,
Зміцер САНЬКО,
Здзіслаў СІЦЬКА,
Алег ТРУСАЎ,
Генадзь ЦЫХУН.
**Адказны сакратар —** Уладзімір АНІСКОВІЧ.
**Камп'ютарны дызайн —** Ірына ДЗІВІНА.
**Камп'ютарны набор:** Тамара АЎСЯННІКАВА, Вера ВАРАНЦОВА.
**Тэхнічны рэдактар** Валянціна КАРАТКЕВІЧ.
**Карэктары:** Жанна КАЗЛОЎСКАЯ, Генадзь КАЖАМЯКІН.

**Адрас рэдакцыі:** 220029, г. Менск, вул. Чычэрына, 1, 3-і паверх.
**Тэлефон: 233-17-83.**

Камп'ютарнае забеспячэнне пры падтрымцы Беларускага аддзялення Фонду Сораса.

***Рэха***

## Славаміра Адамовіча судзяць за словы ці дзеянні?

Калі раней творчасць паэта новага пакалення Славаміра Адамовіча ведала практычна невялікая група аматараў вершаскладання, якое называецца мала каму зразумелым замежным словам перфаманс, то зараз сітуацыя змянілася. Славамір Адамовіч стаў вядомым у асяродку моладзі (і не толькі) практычна паўсюдна ў Беларусі. Праўда, самому творцу ад гэтай славы наўрад ці лягчэй, бо вось ужо амаль год яго трымаюць у следчым ізалятары і час ад часу прывозяць у суд, каб урэшце высветліць, дык што ж такое гэты ягоны верш "Убей президента" — небяспечная агітка да злачыннага дзеяння ці ўсё ж той самы перфаманс, пра які згадвалася вышэй. Абвінаваўцы кажуць — агітка, адвакат — мастацкая творчасць, якую (і за якую) могуць судзіць толькі чытачы, суддзя вагаецца — а ўрэшце паэта зноў вядуць парыцца ў кутузку.

Цяпер, калі справа паэта разглядаецца ў Віцебскім абласным судзе, туды звярнуліся вельмі вядомыя ў Расіі паэты і празаікі, якія прадстаўляюць Рускі ПЭН-цэнтр, што з'яўляецца асацыятыўным членам ЮНЭСКА і Сусветнай арганізацыі пісьменнікаў. Зварот падпісалі Андрэй Бітаў, акадэмік Дзмітрый Ліхачоў, Фазіль Іскандэр, Бэла Ахмадуліна, Андрэй Вазнясенскі, Булат Акуджава, Анатолій Прыстаўкін і іншыя літаратары, якія правялі літаратурную экспертызу верша Славаміра Адамовіча. Іхняе канчатковае меркаванне — гэта не агітка, у вершы няма заклiку да канкрэтнага дзеяння супраць канкрэтнай асобы. А ўвесь верш напісаны ў стылі гратэску, паэтычнага перфаманса. "У канцы 20 стагоддзя, — гаворыцца ў звароце, — пара ўрэшце зразумець, што мастацкае слова, паэтычны вобраз не могуць быць падставай для пераследу пісьменніка ці паэта". Таму аўтары звароту катэгарычна за тое, каб крымінальная справа супраць Славаміра Адамовіча была спыненая. Цяпер усе чакаюць, а якім усё ж акажацца вердыкт самога высокага суду.

**Л. М.**

# “ЛІЧАЦЬ НАС БРАТАМІ СВАІМІ”

*(Заканчэнне. Пачатак на стар 1.)*

мешчаніна: ялавыя боты, шэры доўгі сурдут і шапка з казырком, у той час, як жанчыны яшчэ прытрымліваліся сваіх стракатых шляфрокаў і чырвоных хустак.

Сёння адзенне беларускіх татараў не адрозніваецца ад еўрапейскага. Але некаторыя адметныя татарскія элементы адзення засталіся. Як сведчаць даследнікі, беларусы і палякі перанялі ў татараў бурку, жупан, канфедэратку, халат, андарак, намітку, боты і так званыя слуцкія паясы, а з імі ўвайшлі ў беларускі слоўнік назвы гэтых прадметаў. Яшчэ раней у цюркаўгунаў былі перанятыя порткі, якія ў іх зваліся штанамі.

А вось мову, атабарыўшыся на беларускай зямлі, татары праз дватры пакаленні пераймалі мясцовую. Праўда, уносячы ў яе і свае словы, якія ахвотна засвойвалі беларусы. Такім чынам, у беларускай мове з'явілася каля шасцісот татарскіх слоў.

Сталінскія рэпрэсіі і войны скарацілі колькасць татарскага насельніцтва на Беларусі. Засталася жменька — 12,5 тысячы чалавек. Але гэтая жменька паступова адраджаецца. У гэтым заслуга не толькі актывістаў адраджэння, але і новага стаўлення дзяржавы да царкоўных пытанняў (гл. Закон РБ “Аб свабодзе веравызнанняў і рэлігійных арганізацый”, “Аб святочных днях у РБ”).

На пачатку 90-х гадоў адраджэння, нібы зыркае полымя, ахапіла асяроддзе беларускіх татараў. Асветную, выдавецкую і навукова-даследчую працу распачалі ўтвораныя ў 1989 годзе пад эгідай Беларускага фонду культуры менскае і гарадзенскае татарскія згуртаванні, якія атрымалі назву “Аль-Кітаб” у Менску і “Кітаб” у Гародні. У гэтых аб'яднаннях былі створаныя камісіі па гісторыі, культуры, пытаннях рэлігіі, міласэрнасці, рабоце сярод моладзі, умацаванні сувязяў з татарамі замежжа. Пачаліся клопаты аб захаванні на Беларусі татарскіх помнікаў духоўнай і матэрыяльнай культуры і напісанні гісторыі татараў на Беларусі, якая збіраецца па крупінках з літаратурных крыніц. Гэтая задача запатрабавала неадкладнага наладжвання выдавецкай справы, правядзення навуковых канферэнцый.

Першая міжнародная навукова-практычная канферэнцыя “Татары-мусульмане на землях Беларусі, Літвы і Польшчы” адбылася ў 1993 г. і прысвячалася 600-годдзю татарскага асадніцтва, юбілей якога будзе адзначацца сёлета. Падставай для святкавання гэтай даты паслужыў запіс Яна Длугаша ў ягонай Хроніцы аб тым, што татарскія паселішчы ў ВКЛ былі заснаваныя менавіта ў 1397 г. Канферэнцыя была арганізаваная сіламі згуртавання “Аль-Кітаб” пры падтрымцы беларускіх навукоўцаў, дзяржаўных і грамадскіх арганізацый. На ёй былі разгледжаныя праблемы этнічнага, сацыяльна-культурнага і палітычнага развіцця татараў на тэрыторыі Беларусі, рэлігійнае і культурнае жыццё і старонкі ваеннай гісторыі. Другая міжнародная канферэнцыя “Ісламская культура татараў-мусульман Беларусі, Літвы і Польшчы, яе ўзаемадзеянне з беларускай і іншымі культурамі” (1995) прыцягнула значную ўвагу сусветнай грамадскасці. На ёй выступілі дэлегаты з Турцыі, Прыбалтыкі, Егіпта, Татарстана, Нігерыі, Масквы і Пецярбурга, Польшчы, Швейцарыі, ЗША і іншых краін.

З 1991 г. у Менску выдаецца згуртаваннем “Аль-Кітаб” часопіс “Байрам”, у якім актыўна друкуюцца і беларускія даследнікі (А. Грыцкевіч, Л. Лыч, Г. Каханоўскі, Л. Побаль, Э. Іофэ, А. Бяляцкі, В. Дадзіёмава, Я. Гучок і іншыя). Часопіс знаёміць з гісторыяй і побытам беларускіх татараў, мусульманскімі справамі ў свеце. Значная плошча адводзіцца пад пробныя артыкулы “Энцыклапедычнага даведніка для беларускіх татараў”, пад “Крымскататарска-беларускі слоўнік”, пад тэкст свяшчэннай кнігі “Кур'ан”. Публікуюцца таксама “Літаратурныя старонкі”, матэрыялы злабадзённага характару, напрыклад, пра Чачню, старонкі календара на кожны месяц, успаміны і перапіска сучаснікаў і г. д. Да сказанага дадам, што на Беларусі ўжо адбыліся два мусульманскія міжнародныя з'езды. У гутарцы з галоўным рэдактарам “Байрама” **Якубам ЯКУБОЎСКІМ** працягваецца тэма татарскага адраджэння на Беларусі.

**— Якуб Адамавіч, раскажыце пра будні Вашага згуртавання “Аль-Кітаб”.**

— Збіраемся на сходкі два разы на тыдзень. Наведванне іх неабавязковае, бо мы не звязаныя ні членствам, ні складкамі. Хочаш — прыходзь, хочаш — не прыходзь. Наш актыў, а гэта звычайна чалавек 30 — 40, прысутнічае па маральным абавязку. На сходах абмяркоўваем праблемы і справы, у тым ліку выдавецкія і звязаныя з работай камісій. Заслухоўваем паведамленні людзей, адказных за розныя ўчасткі дзейнасці згуртавання, а таксама гутарым з гасцямі і асобамі, якім ёсць пра што расказаць і што сказаць. У канцы бываюць заняткі па гісторыі іслама і крымска-татарскай мове.

**— У Вас выходзіць часопіс пад назвай “Байрам”. А што азначае гэтае слова?**

— “Байрам” у перакладзе з татарскай мовы азначае “свята”. Паколькі ў нас сродкаў няма, то выходзіць ён паквартальна. Значыць, чатыры разы на год з нагоды выхаду чарговага нумара ў нас і бывае свята.

**— А чаму “Байрам” выходзіць на беларускай мове?**

— Таму што большасць нашых чытачоў — татары, родная мова якіх беларуская. Такіх у нас, паводле апошняга перапісу насельніцтва, налічваецца восем тысяч. Дзве тысячы адзінаверцаў пераехала на Беларусь з Паволжа, іх родная мова — татарская. І толькі дзве з паловай тысячы нашых людзей гавораць па-расійску і на іншых мовах, а гэта меншасць. Акрамя таго, у нас так заведзена, што кожны татарын, які тут жыве, павінен ведаць беларускую мову. Аднак хваліцца татарыну, што ён ведае гэтую мову, часам лепш за беларуса, нягожа. Ён павінен быць сціплым і ўступіць месца першым, менавіта беларусам, бо яны на тысячу гадоў раней пасяліліся на гэтай зямлі і тым самым далі мажлівасць тут жыць татарам. Часам ад паволжскіх або крымскіх татараў можна пачуць папрок, што вось вы не ведаеце роднай мовы. На яго я адказваю так: “Мы даўно карыстаемся роднай нам беларускай мовай, гаворым і на рускай, разумеем польскую і ўкраінскую. Але галоўнае, мы выхоўваем сваіх дзяцей сумленнымі і працавітымі людзьмі, якія маюць гонар называцца татарамі ў любых абставінах. А што да татарскай мовы, то прыйдзе час і ў нас будуць свае татарскія школы”.

**— Наколькі мне вядома, татары з беларусамі заўсёды жылі дружна.**

— Наогул, так. Але вось праз школу і ў царскія часы, і цяпер праводзіцца думка, што наш народ — эксплуататар, ён трыста гадоў трымаў славян у ярме. У падтэксце гэта гучыць, што, маўляў, наша сённяшняе адставанне ад еўрапейскіх цывілізаваных краін абумоўліваецца татара-мангольскім ярмом, ад якога дагэтуль не акрылі. Такое адмоўнае стаўленне да татараў праз падручнікі перадалося і на Беларусь, хоць тут татараў нават трыццаць дзён не было. Але самі беларусы нас ні ў чым не папракаюць.

**— Чым адрозніваецца “Байрам” ад беларускіх выданняў?**

— Сваёй тэматыкай. Гэта гісторыя беларускіх татараў і падзеі, да якіх яны прычыніліся; асновы ісламу, даследнікі татарскай гісторыі і культуры, заняткі і рамёствы, жыццё ў Татарстане, крымскія, сібірскія, астраханскія, беларускія і польскія татары; татары далёкага замежжа, слоўнік татарскіх найбольш ужывальных слоў і выразаў, татарская кухня, мастацкая творчасць і т.д. А па сваёй спецыфіцы гэты часопіс сямейны. У нас няма сіл і жадання падбіраць рафініраваных аўтараў.

**— Што Вы хочаце гэтым сказаць?**

— Хачу сказаць, што мы не хочам моцна адрывацца ад мас. У нас кола аўтараў шырокае, шмат пішуць і простыя людзі — па-простаму.

**— А хто вашы аўтары?**

— Татары, беларусы і яўрэі.

**— Што у вас робіць рэдакцыйная група?**

— Дапамагае ў апрацоўцы і навуковым рэдагаванні тэкстаў. Усе добраахвотнікі. Дапамагаюць бескарысліва.

**— Што у вас яшчэ выходзіць, акрамя “Байрама”?**

— Часопіс з рэлігійным накірункам “Жизнь” — на рускай мове, бо ён рассылаецца за межы Беларусі, у тым ліку і ў арабскія краіны. Жыццё ў ім паказваецца і такое, якое яно ёсць, і такое, якім яно павінна быць.

**— Як ідзе ваша праца над энцыклапедыяй для беларускіх татараў?**

— Слоўнік энцыклапедыі разлічаны на 8 — 9 тысяч артыкулаў разам са спасылачнымі. Спецыфіка выдання заключаецца ў адборы артыкулаў. У нас даецца тое, што не прачытаеш у іншых энцыклапедыях. Напрыклад, мы плануем серыю артыкулаў па асновах мусульманскай веры, бо спадзяваюцца, што гэта будзе зроблена беларусамі ці летувісамі, не даводзіцца. Мусульманскімі і цюркскімі краінамі і народамі мы больш цікавімся — скажам, якутамі або малдаўскімі гагаузамі. Набярэцца, мабыць, пяцьсот — шэсцьсот мусульманскіх народаў, пра якіх раскажа нашае выданне. А наогул будуць артыкулы пра кожную краіну ў свеце, у якіх будзе адзначана, дзе там жывуць мусульмане. Не будзе абыдзена і гісторыя ВКЛ, Рэчы Паспалітай, Расійскай імперыі. У нас будуць артыкулы пра ўсіх князёў, каралёў і цароў, якія тады панавалі. Пра Івана Жахлівага, які па маці паходзіў з татараў і які ў 1552 годзе, захапіўшы Казань, атруціў там ваду. Усяго ж будзе прысвечана гістарычным асобам каля двухсот артыкулаў. Шэраг артыкулаў будзе прысвечаны тэме татарскай этыкі і маралі, напрыклад, пра шанаванне бацькоў або пра тое, як мусульманскае права вучыць ставіцца да сірот. У нас лічыцца ганьбай, калі старыя бацькі трапляюць у прытулак для састарэлых, а дзеці — у сіроцкія дамы. Абавязкова асірацелых дзяцей павінен нехта выратаваць і выхаваць. Пры напісанні артыкулаў на рэлігійныя тэмы ў якасці ўзораў мы бяром шматтомную касцельную энцыклапедыю — выданне, якое з'яўлялася ўласнасцю беларускага дзеяча ксяндза Адама Станкевіча і якое зараз знаходзіцца ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. Карыстаемся і яўрэйскай энцыклапедыяй, а пры асвятленні пытанняў праваслаўнай веры — Беларускім царкоўным календаром.

**— Вось Вы далі артыкул пра Канстанціна Езавітава. Ён татарын?**

— Мы далі яго таму, што ён выдатны дзеяч беларускага адраджэння. Ведаеце, той, хто надта скараецца і схіляецца перад уладамі, — не надзейны ў жыцці чалавек, пра такога і пісаць не варта.

**— Як Вы робіце татарскі каляндар?**

— Па ўзоры Заходнебеларускага. Мы працягваем традыцыі татараў, якія жылі ў Заходняй Беларусі, Польшчы і Літве.

**— Ваша праца грунтуецца на дэмакратычнай аснове?**

— На іншай і не магчыма было б.

**Распытвала Ірына КРЭНЬ.**

## КРЫМІНАЛ-ДАЙДЖЭСТ

### Банду ўзялі ў ваколіцах сталіцы

Калі раней турысты па дарогах Беларусі маглі спакойна ехаць у любы час дня і ночы, то за апошнія гады сітуацыя змянілася. Цяпер ужо, каб пазбегнуць нападу бандытаў, аўтамабілісты стараюцца не рабіць прыпынкаў у бязлюдных месцах, на ўзбочынах дарог, стараюцца ўключацца ў значныя групы машын ці ўвогуле ехаць з міліцыяй.

Асабліва насцярожыла міліцыю, калі на турыстаў і расійскіх “чаўнакоў” былі зроблены напады з прымяненнем аўтаматаў і пісталетаў. Дзёрзка паводзілі сябе бандыты пры аграбленні турысцкага аўтобуса ў Смалявіцкім раёне. Таму для раскрыцця банды Міністэрствам унутраных спраў Беларусі была створаная ўзмоцненая следча-аператыўная група, якая працавала ў цесным узаемадзеянні з праваахоўнымі органамі Расіі. Узмацнілі кантроль на дарогах, арганізавалі засады і пасткі, на адну з якіх бандыты і “клюнулі”.

Банду ўзялі імкліва, амаль без страляніны. Аказалася ў ёй чатыры чалавекі. Ніводзін з іх не быў, як стала вядома, беларускім грамадзянінам, за кожным, як высветлілася ў часе следства, цягнецца хвост цяжкіх злачынстваў, у тым ліку забойстваў як у Беларусі, так і на тэрыторыі шэрагу іншых краін СНД.

### Адзначыў выхад на волю...

У Оршы ў раённым аддзеле ўнутраных спраў на транспарце памёр 45-гадовы рэцыдывіст. Як высветлілася, раніцай у Горках яго выпусцілі на волю і ён адразу знайшоў дзе выпіць. Пад вечар яго заўважылі ў “ляжачым” стане міліцыянеры ў Оршы. Быў ён грунтоўна пабіты, але ад медыцынскай дапамогі адмовіўся. Праз дзве гадзіны памёр. Медыцынская экспертыза дала заключэнне, што смерць наступіла ад траўматычнага шоку: аказаліся зламанымі рэбры і адбіты ныркі.

### Пасядзелі, кавы выпілі...

Выпілі, магчыма, чаго-небудзь і мацнейшага за каву. Пра гэта 25-гадовы прыватны прадпрымальнік не распаўсюджваўся, калі ўсхваляваны і спацелы прымчаў да дзяжурнага ў Ленінскі райаддзел міліцыі г. Менска.

А здарылася так, што запрасіў ён да сябе ў госці 17-гадовую ўвішную менчанку. Калі ж яе нарэшце правёдзіў, то з кватэры зніклі 500 долараў. Вось і паімчаў камерсант у міліцыю.

### Спрацавалі аператыўна

Быў прыкры выпадак, калі ў цэнтры сталіцы Беларусі непадалёк ад цырка рабаўнікі нахабна выхапілі сумачку ў высокапастаўленай англійскай дыпламаткі. Скандал, канешне, на ўвесь белы свет. На гэты раз сітуацыя аказалася іншай. Не паспелі менскія зладзеі-кішэннікі на Камароўцы выцягнуць кашалёк з грашыма і дакументамі ў супрацоўніцы пасольства Італіі, як сутыкнуліся з аператыўнікамі аддзела міліцыі на чале са старшым групы інспектарам Анатолем Краўцовым. Двух зладзеяў аператыўнікі “ўзялі” адразу, а трэцяга неўзабаве “дасталі” ў ягоным сховішчы. Пасольства Італіі ў спецыяльнай вербальнай ноце выказала падзяку менскім міліцыянерам, асабліва адзначыўшы высокую эфектыўнасць іх дзеяння.

**По матэрыялах прэс-цэнтра МУС Рэспублікі Беларусь.**

## Новае выданне БХК

Выйшаў з друку першы нумар бюлетэня Беларускага Хельсінкскага камітэта — выдання, мэта якога, як і ўжо выдаванай камітэтам газеты “Круг”, — інфармаванне беларускай і міжнароднай грамадскасці аб стане правоў чалавека ў нашай краіне.

“Сёння на Беларусі абмежаванні правоў і свабод грамадзян з боку выканаўчай улады сталі сістэматычнымі. Парушаюцца амаль усе артыкулы Канстытуцыі і базавага заканадаўства, якія пярэчаць аўтарытарнай палітыцы Прэзідэнта. І Беларускі Хельсінкскі камітэт будзе і надалей узднімаць голас пратэсту супраць стварэння на Беларусі антыдэмакратычнай паліцэйскай дзяржавы...

На старонках нашага бюлетэня мы будзем сцвярджаць непахіснасць агульначалавечых каштоўнасцяў і патрабаваць няўхільнага выканання на Беларусі ўсіх палажэнняў Агульнай дэкларацыі правоў чалавека. Мы будзем імкнуцца, каб беларускія грамадзяне ведалі аб сваіх правах і маглі абараніць іх”, — тлумачыць сваю пазіцыю ў змешчаным на першай старонцы бюлетэня артыкуле яго рэдакцыйная рада.

Пацвярджэннем слушнасці гэтых словаў ёсць увесь змест выдання. На першай і другой яго старонках змешчаны выпрымкі са справаздачы старшыні рады прафсаюзаў работнікаў сельскагаспадарчага машынабудавання, дэпутата Вярхоўнага Савета А.Бухвостава — інфармацыя аб парушэннях правоў чалавека ў сферы працоўных адносінаў і прафсаюзнага руху. Там жа — урыўкі з заявы БХК з нагоды забароны Менгарвыканкамам шэсця і мітынгу работнікаў, прызначаных на 28 лютага 1996 года.

На трэцяй старонцы брашуры падаецца інфармацыя аб гісторыі Беларускага Хельсінкскага камітэта, яго дзейнасці і цяперашняй структуры.

На наступных старонках змешчанае паведамленне аб “круглым стале”, праведзеным БХК супольна з Беларускім ПЭН-цэнтрам, Беларускай асацыяцыяй журналістаў ды рэдакцыяй газеты “Феміда”, а таксама зварот удзельнікаў гэтай нарады да юрыстаў і супрацоўнікаў праваахоўных органаў. Тэмаю пасяджэння “круглага стала” сталі неправавыя дзеянні ўладаў пад час грамадскіх акцыяў, што адбываліся ў сталіцы ўвесну мінулага года.

Акрамя гэтых ды іншых звестак аб дзейнасці праваахоўнага руху, бюлетэнь падае інфармацыю пра акцыі рэгіянальных арганізацыяў БХК ды іх друкаваныя выданні.

**У.П.**

*У суседзяў*

# “Пашырэнню НАТА садзейнічае сама Масква”

Нярэдка можна прачытаць у пэўнага кшталту газетах ці пачуць ад каментатара тэлевізіі меркаванне, вядомае многім яшчэ з часоў СССР: імперыялістычны Захад нават у сне сніць, каб з дапамогаю ваеннага блока НАТА захапіць у палон усходніх суседзяў. СССР, не вытрымаўшы гонкі ўзбраенняў пры недасканалай сістэме гаспадарання, канчаткова распаўся, а ранейшае меркаванне засталося. У той жа час шмат хто з усходнееўрапейскіх краін імкнецца ўсімі спосабамі як мага хутчэй трапіць пад крыло гэтага самага НАТА, нягледзячы на немалыя матэрыяльныя выдаткі на пераўзбраенне. Беларусы павінны вельмі цвяроза паставіцца да гэтага працэсу, бо, на вялікі жаль, нашу краіну не пакідаюць убаку, наадварот, яна становіцца разменнай па сутнасці манетай у вельмі небяспечнай палітычнай гульні. У гэтых абставінах, мяркуем, будзе карысным пазнаёміцца з апошнімі даследаваннямі аўтарытэтнага расійскага Інстытута эканамічнага аналізу, пра што паведамляе ў газеце “Известия” вядучы супрацоўнік ІЭА А. Іларыёнаў.

Адна з на першы погляд парадаксальных высноў, якую робіць даследнік, тая, што “галоўнае рашэнне аб пашырэнні НАТА было прынятае не толькі ў Боне і Вашынгтоне, але і ў не меншай, калі не ў большай ступені — у Маскве”. Якія ж гэтаму доказы? “Калі армію не скарачаюць, а азлабляюць, трымаючы на галодным пайку, — піша даследнік, — калі ваенныя расходы займаюць усё большую долю дзяржаўнага бюджэту, калі афіцыйныя асобы трасуць зброяй і публічна шукаюць сабе ворагаў сярод суседзяў, то для кожнага назіральніка абсалютна зразумела — ад гэтай краіны, нашпігаванай ядзернай зброяй, зыходзіць пастаянная пагроза і перш за ўсё — суседзям. Такое суседства вельмі небяспечнае. Ад яго трэба абараняцца. І пажадана — пад парасонам самага магутнага ваеннага блока”.

Ці могуць суседзі разлічваць на тое, што ваенная машына Расіі іх не кране, калі яны будуць паводзіць сябе ціхмяна-нейтральна? — ставіць наступнае пытанне даследнік. Не могуць, адказвае ён адназначна. Ужо таму не могуць, што “злачынная бойня у Чачні расійская дзяржаўная машына прадэманстравала поўнае грэбаванне элементарнымі правамі і жыццямі ўласных грамадзянаў — што тады казаць пра чужых? Расійскія ўлады, — падкрэслівае даследнік, — змаглі знішчыць не толькі дзесяткі тысяч сваіх суайчыннікаў, але і апошнія спадзяванні акаляючага свету, што новая, некамуністычная Расія можа перастаць быць імперскай, агрэсіўнай, захопніцкай. У свеце ўсё ўзаемазвязанае. І тыя, хто прымаў рашэнне аб уводзе расійскіх войскаў у Чачню, аўтаматычна зрабілі непазбежным прасоўванне НАТА на Усход. Такі вось атрымаўся асіметрычны адказ самім сабе”, — падагульняе аўтар аналітычнага артыкула.

Тым не меней, задаецца ён пытаннем, як стала магчымым падобнае прасоўванне на практыцы? Прычына — радыкальнае аслабленне палітычнага і эканамічнага патэнцыялу Расіі, што робіць яе слабасільнай. “Гэтага, — пераканаactive даследнік, — удалося дамагчыся толькі дзякуючы рэдкай па бяздарнасці эканамічнай палітыцы”. Нежаданне праводзіць сапраўдныя эканамічныя рэформы, нарошчванне дзяржаўных расходаў, пастаяннае павелічэнне падатковага цяжару, узмацненне дзяржаўнага рэгулявання эканомікі, — заўважае ён далей, — не маглі мець ніякага іншага выніку, акрамя паскоранага скарачэння вытворчасці. Выходзіць, далёка не адзін толькі разрыў былых эканамічных сувязяў, як некаму хочацца пераканаць недасведчаных абывацеляў, стаўся прычынай сённяшняга эканамічнага бязладдзя. Дзе аказалася эканамічна выгадным, гэтыя сувязі замацаваліся зноў, але ўжо рынкавым шляхам. А прымусіць “звязвацца” сілай дзяржаўных загадаў... Што ж, можам мы ўспомніць, нашы беларускія прадпрыемствы спрабавалі па былой завядзёнцы пастаўляць прадукцыю ў Расію, а што атрымалі ўзамен?

Зараз Расія рызыкуе быць літаральна раздушанай, піша аналітык, цяжарам неверагодна дарагіх, але малапрыгодных ракетна-ядзерных узбраенняў. Але ж ці не самы галоўны расійскі рухавік натаўскага кідка на Усход, пераканаў ён, — захаванне велізарнага бюджэтнага дэфіцыту. Траціцца болей, чымся зарабляецца. Ну, а дэфіцыт патрабуе для свайго пакрыцця пазык, не ў апошнюю чаргу знешніх. Прасяць у таго, хто здолеў займець грошы, — у міжнароднага капіталізму. Калі даўгі своечасова вяртаюць, тады застаецца хаця б бачнасць партнёрства. А калі Расія, пачынаючы з 1990 г., ні разу не здолела цалкам выканаць сваіх абавязкаў па пазыках? Тады, кажа аўтар аналітычнага артыкула, “доўг пераўтвараецца ў залаты ланцуг, які прымацоўвае даўжніка да крэдытора. Даўжнік можа атрымаць грошы, але губляе палітычную самастойнасць”.

У артыкуле называецца велічыня гэтага доўгу. За 6 год “перабудовы” знешні доўг СССР з 28,3 млрд. долараў узрос да 83,6 млрд. А за 5 гадоў існавання затым ужо незалежнай Расіі доўг падрос яшчэ на 44 мільярды — да 127,4 млрд. долараў. Нават Расіі з яе немалымі прыроднымі рэсурсамі, калі надалей нарэшце пачаць гаспадарыць не абы-як, а культурна, праблемы з даўгамі хопіць на дзесяцігоддзі. У такім становішчы, як сведчыць вопыт гісторыі, некаторыя вялікія краіны спрабавалі вырашаць свае эканамічныя праблемы шляхам захопу слабейшых суседніх дзяржаў. Каб папярэдзіць магчымыя падобныя памкненні Расіі, і пачаўся рух НАТА на Усход. “Далёка не выпадкова, — заўважае аўтар аналітычнага артыкула, — што расійскаму прэзідэнту непазбежнасць падобнага пашырэння ў каторы раз удумліва растлумачвае галоўны крэдытор, трымальнік кантрольнага пакета расійскага знешняга доўгу германскі канцлер Коль”.

Ну, а Расія? Яе Дзярждума па прапанове ўрада зацвярджае на 1997 год такі бюджэт, што ў штабе НАТА ў Брусэлі прыйшлі да аднaзначнага меркавання: “усходні мядзведзь” працягвае ўпарта рухацца ў ранейшым накірунку — павелічэння дзяржаўных расходаў і падатковага цяжару на насельніцтва нават з празмерным узроўнем мінулага года. Знешні доўг мусіць павялічыцца мінімум на 9 млрд. долараў, у той час як эканамічны спад і надалей непазбежны. Значыць, запланавана па сутнасці вельмі небяспечная нестабільнасць. Было б проста дзіўным, заўважае аналітык, каб у такіх умовах НАТА стала чакаць з умацаваннем сваіх пазіцый.

**Ул. Ас.**

# Што ў Татарыі кепска, у Беларусі сыдзе?

У апошнія месяцы пад нагамі на вуліцах усё часцей хрумстаюць пустыя пластмасавыя стаканчыкі з надпісам “Русская водка”. У магазінах не праблема набыць поўныя. Сасуць іх не толькі фіялетаватварыя “бухарыкі”, куды ні зірні, але і падлеткі — купіць жа прасцей, чымся вялікую бутэльку. Здаецца, у Маскве ўпершыню гэтыя стограмоўкі сталі іранічна называць “рускія йагурты”. А вось улады Татарстана, як паведаміла агенцтва “ІМА-прэс”, звярнулі ўвагу на тое, што гарэлка, запячатаная ў пластмасавыя стаканчыкі, — гэта вельмі сур’ёзная небяспека здароўю чалавека. Экспертыза паказала: пры сутыкненні алкаголю з палімерам адбываецца хімічная рэакцыя, у выніку якой выдзяляюцца асабліва таксічныя рэчывы. Пры захаванні ж гарэлкі ў такой пасудзіне больш за месяц колькасць таксінаў рэзка павялічваецца, што можа прывесці да смяротнага зыходу спажыўца гэтай атруты. Больш лёгкая форма — калі чалавек раптам упадае ў стан агрэсіўнага шаленства. Ці не таму яшчэ апошнім часам так павялічылася колькасць выпадкаў, калі ў алкагольным ачмурэнні людзі робяць самыя дзікія ўчынкі, уключаючы забойствы.

**Л.**

*Лісты здалёк*

# “НЯЎЖО БЕЛАРУСЫ ТАКІЯ ЦЁМНЫЯ?”

У мяне ў Беларусі радня, да таго ж, я калісьці там скончыла сярэднюю школу, засталіся добрыя школьныя сябры, таму да гэтага краю і розных жыхароў стаўлюся з асаблівай прыязнасцю. Наогул, некалі мне беларусы здаваліся гаспадарлівымі, працавітымі і разважлівымі з адчуваннем уласнай годнасці людзьмі. Але тое, што ў вас робіцца цяпер, для мяне горкая нечаканасць. Зразумець вашы рэаліі цяжка. Канешне, адсюль, за сотні кіламетраў, не ўсе акалічнасці можна цалкам асэнсаваць, але, нават проста пабачыўшы шмат разоў беларусаў на нашых маскоўскіх базарах ды паразмаўляўшы з імі, становіцца, паверце, не па сабе. Яно і ў нас жыццё не назавеш прыемным і асэнсаваным, але, парагўнаўшы з тым, што робіцца, па маіх звестках, у вас, пачынаеш думаць, што нашы расіяне ўсё ж больш цывілізаваныя і мудрэйшыя.

Часта з дзікімі перакрутамі, хаатычна, але расіяне пачалі будаваць рынкавую эканоміку. А размаўляеш з прыезджымі беларусамі і дзівішся: ды ў вас, аказваецца, не дадумаліся да нічога лепшага, як зноў будаваць калгас, толькі вялікі! У той жа час марачы пра зямны рай, які нехта падаруе. А гэтая маса вашых механізатараў, будаўнікоў, на якіх балюча глядзець, так іх шкада! Тут, у Маскве, практычна ўсе яны лічаць за шчасце, калі знойдуць хоць нейкі заробак, а самі знаходзяцца ў жахлівых бытавых умовах, начуючы дзе прыйдзецца. Туляюцца, губляюць кваліфікацыю, здароўе. А па меркаваннях жа нашых спецыялістаў, як я ведаю, у вас, калі не адбудзецца нейкі цуд, калі рашуча не зменіцца сістэма гаспадарання, горшае наперадзе. Ніякая інтэграцыя не дапаможа, бо ў расіянаў сваіх праблем хапае, каб яшчэ карміць ваш вялікі калгас.

Ну, няўжо беларусы сапраўды такія цёмныя, што гатовыя бясконца слухаць байкі пра камунізм, і ім дастаткова толькі, каб гэты камунізм нехта палка ім абяцаў? Ці, можа, усё-такі жыццё ў вас не такое бязладнае, як расказваюць прыезджыя і нам тут здаецца?

**С. СОКАЛАВА,**
**кандыдат тэхнічных навук.**
г. Масква.

*Замежжа*

# МОВА ПРЫГНЁТУ

Студэнты універсітэта у Бэрклі (Каліфорнія, ЗША), сярод якіх было заўсёды шмат паўднёваафрыканцаў, здаўна стаялі на чале барацьбы з апартэідам у ПАР. Але, як ні дзіўна, менавіта ў гэтым універсітэце знайшліся людзі, якія маюць адметныя погляды на жыццё ПАР. Сёння універсітэт прапануе студэнтам курс навучання мове афрыкаанс, сфера ўжывання якой пасля прыходу да ўлады ў ПАР дэмакратычнага ўрада значна паменшылася. Гэтую ідэю спрабуе ажыццявіць Нэліке ван Дузэн — выкладчыца галандскай мовы, фанетычна, семантычна і лексічна вельмі шчыльна звязанай з афрыкаанс. Але гэты курс яшчэ да свайго пачатку выклікаў спрэчкі.

У XVII стагоддзі выхадцы з Нідэрландаў перасяляліся ў Паўднёвую Афрыку, на тэрыторыю цяперашняй Паўднёва-Афрыканскай Рэспублікі. Там іх мова змяшалася з крэольскай малайска-партугальскай моваю, якой карысталіся маракі, гандляры і рабы, ды мясцовымі афрыканскімі дыялектамі. Так паўстала мова афрыкаанс. З цягам часу карыстацца ёй сталі ці не выключна нашчадкі галандцаў — буры. Для іх яна стала не толькі інструментам паразумення і спосабам адасобіцца ад англамоўных пасяленцаў — выхадцаў з Вялікай Брытаніі. Афрыкаанс стала ўжывацца дзеля ажыццяўлення палітычных мэтаў бураў, якія мелі верх у краіне. А ідэалагічнай платформай носьбітаў афрыкаанс было размежаванне людзей на рабоў і гаспадароў паводле іх расавай і моўнай прыналежнасці — апартэід. Чорныя гаварылі па-англійску, белыя — на афрыкаанс.

Мова афрыкаанс побач з англійскай была дзяржаўнай моваю ПАР, але для грамадзян краіны, што маюць цёмную скуру, яна атаесамлівалася з рэжымам апартэіду — прымусовага раздзелу расаў і іх няроўнасці. Нянавісць былых рабоў да мовы каланізатараў мае моцныя карані. Афрыкаанс была інструментам кантролю і прыгнёту чорных жыхароў краіны. Яны памятаюць: некалькі гадоў таму ва ўсіх урадавых установах ПАР віселі аб’явы: “Тут гавораць на афрыкаанс”. Людзі, якія іх пісалі, ведалі англійскую — мову чорных, але, маючы перавагу паўсюль, дыктавалі тым свае ўмовы: “альбо гавары, як мы, альбо сыходзь”.

Англічане, якія ўладарылі ў краіне ў XIX стагоддзі, рабілі ўсё, каб вынішчыць гэтую мову і гэткім чынам падпарадкаваць сабе выхадцаў з Галандыі. Тады гэтыя захады не мелі поспеху. Сёння іх спрабуе паўтарыць ўрад Нэлсана Мандэлы, абмяжоўваючы сферы яе ўжывання і спрыяючы англійскай, якая стала роднай для большасці карэннага насельніцтва.

Афрыкаанс, як і яе носьбіты, здзіўляе сваёй трываласцю. Змены ў сферы міжнацыянальных зносін сустракаюць адпор яе носьбітаў. “Сувязь паміж афрыкаанс і апартэідам вельмі небяспечная,” — сцвярджае Нэліке ван Дузен, якая выкладанне ў ЗША пачала з курса, што мае назву “Мова і канфлікт у ПАР”, імкнучыся паказаць мяжу паміж гісторыяй, палітыкай і мовай. Назваць афрыкаанс мовай прыгнятальнікаў і каланізатараў будзе няслушна, лічыць яна, бо сёння мільёны жыхароў ПАР з цёмнай скурай уважаюць гэтую мову за родную. Нечакана падтрымку ёй у гэтым выказаў Алан Босэк — баптысцкі святар і прадстаўнік так званай змешанай грамады ПАР, якая складае каля 40 працэнтаў насельніцтва краіны — звыш шасці мільёнаў асобаў. “Афрыканскі Народны Кангрэс паўтарае памылкі англічан. Тэлеперадач на афрыкаанс амаль няма, на радыё гэтая мова перажывае цяжкія часы, у парламенце яна практычна не гучыць. Людзі гавораць на афрыкаанс дома і на вуліцы, але без ранейшай пэўнасці, бо адчуваюць, што ўлады гэтага не ўхваляюць, — кажа ён, сцвярджаючы, — нельга прыраўноўваць гэтую мову да іншых”.

Аднак лёс гэтай мовы — спадчыны дзяржавы нацыянальнай няроўнасці — вызначыць толькі час.

**У.П.**

*Замежжа*

# Прэзідэнцкая адміністрацыя — гарант свабоды думак

Падзеі, пра якія пойдзе гутарка, адбыліся не ў Беларусі, а ў далёкай ад яе Паўднёва-Афрыканскай Рэспубліцы.

Напрыканцы мінулага года выдаваны ў сталіцы ПАР Прэторыі эратычны часопіс прапанаваў сваім маладым чытачкам паўдзельнічаць у незвычайным конкурсе. Той з іх, чые дасланыя ў рэдакцыю фотаздымкі (зразумела, адпаведнага выгляду) і выкладзеныя пісьмова пажаданні з інтымнай сферы прыцягнуць найбольшую ўвагу іншых чытачоў, была абяцаная ўзнагарода ў памеры дзвюх тысячаў долараў і аплачаная рэдакцыяй паездка ў ЗША.

Сярод мноства дасланых на конкурс здымкаў і лістоў у фінал выйшлі дзве іх аўтаркі. Першая жадала з галавы да ног пакрыцца крэмам для торта, які потым меўся злізаць яе каханы. Другая аўтарка жадала кахання (працэсу, а не пачуцця) на вачах шматтысячнай публікі.

Але найбольшую ўвагу той жа публікі прыцягнулі не здымкі маладзіц і не іхнія шчыраванні, а тое, што першая з іх аказалася сакратаркай прэзідэнта краіны Нэлсана Мандэлы, а другая — афіцэрам службы парадку вайсковага флоту ПАР.

Цяжка ўявіць, чым маглі б скончыцца падобныя адкрыцці для чыноўніц дзяржаўнага апарату Беларусі. Аднак на поўдні Афрыкі начальнікі ўрадавых устаноў аказаліся надзвычай талерантнымі.

Тое, чым чалавек займаецца ў вольны ад службы час, і тое, аб чым ён марыць, — яго асабістая справа — вырашылі яны. Больш таго: з аднаго боку — службоўцы прэзідэнцкай адміністрацыі, а з другога — вайсковыя маракі пратварыліся ў нефармальныя каманды падтрымкі ўдзельніц конкурсу, вынікі якога залежалі ад колькасці пададзеных за тую ці іншую кандыдатку галасоў. Зразумела, абедзве захавалі свае службовыя пасады.

Прычыняю гэткага лібералізму ў ПАР — колішняй краіне нацыянальнай няроўнасці, мець ўрадавыя кантакты з якой некалькі гадоў таму жадала мала якая дзяржава, — сталі змены, што адбыліся ў тамтэйшым грамадстве і яго агульнай свядомасці. Раса, мова ці, як у згаданым раней выпадку, маральныя прынцыпы людзей не могуць быць прычынамі іх зняважання — сёння ў шматнацыянальнай ПАР гэта ўсведамляе амаль кожны.

Гэтыя словы пацвярджаюцца чынамі. Першага студзеня гэтага года пачалося дзеянне новай канстытуцыі ПАР, якая гарантуе роўнасць і свабоды ўсім грамадзянам, незалежна ад таго, якія думкі яны маюць.

**Падрыхтаваў У.П.**

# Веруем

*Уражанні*

## З ТУГОЙ ПА "ЖАЛЕЗНАЙ" РУЦЭ

Паехаў неяк у слуцкую глыбінку на прыгарадным аўтобусе. Сышоў у невялікай, двароў на пятнаццаць, вёсцы. Зайшоў у хату да знаёмага па ранейшых грыбных і ягадных выпазках пенсіянера, удзельніка Айчыннай вайны. Сустрэў ягонага сына, мужчыну гадоў за сорак, няголенага. Працягваю свежы нумар "Народнай волі". Пачытай, кажу, ёсць шмат цікавага. Мужчына насцярожыўся: "Если льют грязь на Лукашенко, читать не буду". Супакойваю, адказваю, што крытыка ёсць, але без "чарнаты", канструктыўная. Узяў газету. А я — па сваіх справах. Надвячоркам вярнуўся і, у чаканні апошняга рэйса аўтобуса, зайшоў у тую хату. Захацелася паглядзець трэцюю серыю фільма Радзінскага "Загадкі Сталіна". Тэлевізар быў уключаны, але ніхто яго не глядзеў, усе — гаспадар, яго жонка, дачка і сын — былі занятыя хатнімі клопатамі. Я нагомніў пра змест фільма — у адказ маўчанне. Потым гаспадар выйшаў з суседняга пакоя. У руках, прыціскаючы да грудзей, ён трымаў даволі вялікі партрэт Сталіна. На твары — ухмылка радасці. "Вось, адзін я з усёй вёскі збярог", — гаворыць услых. Падумалася: што ты возьмеш з гэтага чалавека, калі для яго, аказваецца, як і пяцьдзесят гадоў назад, "вялікі кормчы" застаецца святыняй — няхай пацешыцца. Але тут жа сын рэзка заўважае, паказваючы жоўтым пракураным пальцам на партрэт:

— Вот кого сегодня нам не хватает! Его железная карающая рука навела б парадак у Беларуси!

— Ну, адкрылі б зноў ГУЛАГ, сталі б па начах раз'язджаць па гарадах і вёсках "чорныя варанкі", зноў страляць "ворагаў народа" ў Курапатах, — заўважаю я, гледзячы на скажоны гневам твар сына, даглядчыка на мясцовай жывёлагадоўчай ферме.

— И правильно! — рубіць ён рукой паветра. — А то один имеет пятнадцать машин и три коттеджа, другой — ничего!

— А ці ведаеш, даражэнькі, што па волі таварыша Сталіна было знішчана, ператворана ў лагерны пыл звыш трыццаці мільёнаў грамадзян былога СССР, у тым ліку каля мільёна беларусаў? — задаю ў сваю чаргу пытанне рубам.

— Зато был порядок везде! — адказвае прыхільнік "жалезнай" рукі і выходзіць з хаты. Бацька тым часам адносіць любімы партрэт на ранейшае месца — у святліцу, пад абразы. Мне ж падумалася: збываюцца прароцтвы расійскага паэта Максімільяна Валошына: "Вчерашний раб, усталый от свободы, возропщет, требуя цепей". Для аматараў сталіншчыны ідэал ранейшы, нязменны — "ярмо с погремушками да бич".

Што мяне больш за ўсё уразіла ў паводзінах прыхільніка "жалезнай" рукі — дык гэта забыццё пра лёс сваіх дзядулі і бабулі, якіх у 30-м годзе, як кулакоў, адправілі на поўнач, дзе яны і загінулі.

Страшная гэта з'ява — бяспамяцтва! У вёсцы, дзе сёння жывых сведак раскулачвання, разгулу рэпрэсій супраць інтэлігенцыі, проста думаючых і гаспадарлівых людзей засталіся адзінкі. А вось аматараў "дзяліць пароўну", на жаль, шмат. Але чаму яны такія, не па-хрысціянску бязлітасныя да чужога жыцця!

М. ТЫЧЫНА.
г. Слуцк.

*Цудадзейныя абразы*

## Ікона Божай Маці "Змякчэнне злых сэрцаў" (ці "Сімяонава прароцтва")



Паводле старажытнай візантыйскай традыцыі, многія хрысціяне напачатку кожнага года звяртаюцца да цудадзейнай іконы Багародзіцы "Змякчэнне злых сэрцаў", спадзеючыся, што Царыца Нябесная Сваёй найвялікшай літасцю напоўніць сэрцы нашых ворагаў сяброўскімі пачуццямі, сэрцы зайздроснікаў — спрыяннем і клопатам пра нас, сквапных людзей зробіць шчодрымі, жорсткіх — чулымі. Вернікі лічаць, што кожны Новы Год Божая Маці і Збаўца наш Ісус Хрыстос распачынаюць асабліва шчырым маленнем аб памнажэнні любові ў свеце, гэтай найвялікшай сіле, якая толькі ўтрымлівае і нітуе ўсё створанае ў гарманічную еднасць.

Колькі б грахоў у чалавека ні было, якімі б цяжкімі яны ні былі, Бог яшчэ больш міласэрны, таму што Ён Сам бясконцы і літасць Яго бясконцая. Але прырода агульначалавечага быцця такая, што кожны асобны чалавек, што перадолее зло ў сабе, сваёй перамогай знішчае частку касмічнага зла, і ў выніку спрыяе лепшаму лёсу Сусвету.

Ікона "Змякчэнне злых сэрцаў" ці "Сімяонава прароцтва" з'яўляецца іканаграфічным адлюстраваннем прадказання святога старца Сімяона Багапрыімца, які па настаўленні Святога Духа на 40-ы дзень пасля нараджэння Дзіцяткі Хрыста прыйшоў у Храм, каб пабачыць доўгачаканага іудзейскім народам Месію. У прарочым стане святы звярнуўся да цнатлівай Багамаці: "Гэты младзенец — на падзенне і паўстанне многіх у Ізраілі. Ён будзе падставай для спрэчак: адны будуць сцвярджаць, што Ён дзеля дабра, іншыя, наадварот, што Ён падманвае народ. І зробяць Яго, паводле прарока Ераміі, як мішэнь, у якую страляюць, павесіўшы на дрэве крыжовым, і, як стрэлы, будуць пранізваць Яго цвікі і дзіды. У той час і Табе Самой Бязмужняя Маці пройдзе скрозь душу зброя тугі і хваробы сардэчнай, калі пабачыш Ты Сына Твайго ўкрыжаваным і калі Яго нябыта будзеш праводзіць са света з вялікай скрухаю і слязьмі, і ўзрадуешся Яго Уваскрасенню, і будуць Табе адкрыты памышленні многіх сэрцаў".

Да іканаграфічнага тыпу "Сімяонава прароцтва" даследнікі адносяць абразы "Змякчэнне злых сэрцаў", "Сямістрэльная", "І Табе Самой душу пройдзе зброя", "Страстная".

Прароцтва Сімяона падаецца на гэтых іконах адпаведнымі сімвалічнымі знакамі.

Звычайна ў якасці сімвала бярэцца наступны абраз: на іконе выява Богамаці мае сем уваткнутых у сэрца стрэлаў — па тры справа і злева і адну знізу. Лічба 7 у Святым Пісанні азначае паўнату нечага, у дадзеным выпадку гора, тугі і пакуты сардэчнай, якія давялося перанесці Прасвятой Дзеве ў час Яе зямнога жыцця.

На іконе "Сямістрэльная" мячы размеркаваныя інакш: тры — з аднаго боку і чатыры — з другога. На іконе "І Табе Самой душу пройдзе зброя" Божая Маці знаходзіцца ў малітоўным стане; ля Яе ног ляжыць Дзіцятка Хрыстос, Маці Божая падтрымлівае Яго адной рукою, другая ж рука закрывае грудзі ад 7 накіраваных на Яе дзідаў. На выяве цудадзейнай іконы "Страстная" ("Пакутніца") каля аблічча Багародзіцы знаходзяцца два анёлы з прадметамі пакут Хрыстовых — крыжом, губкаю і дзідаю.

Неаднаразова дадзеныя іконы прыносілі ацаленне хворым у час эпідэмій у XVI, XVII, XVIII і XIX стагоддзях, ацалялі ад эпілепсіі, псіхічных хвароб, зберагалі ад самагубства. Лічыцца, што цудадзейныя іконы гэтага тыпу напісаныя каля 600 гадоў таму.

Ачышчаючы душу сваю пакаяннем і шчырым постам, вернікі просяць Божую Маці зберагчы іх ад магчымых няшчасцяў і пакут, зласлівасці людзей і цяжкіх дзяржаўных катаклізмаў.

Усе, хто звярталіся са шчырай малітвай веры, адчувалі, што пры змякчэнні сэрца змякчаюцца і палягчаюцца пакуты душэўныя і цялесныя, і ўсведамлялі, што калі моляцца перад гэтаю іконаю за ворагаў сваіх, тады змякчаюцца іх варожыя адносіны, саступаючы больш вялікароднаму пачуццю міласэрнасці.

А. Я.

## Фальковіцкая ікона

Фальковіцкая царква, у якой знаходзіцца аднайменны абраз Божай Маці, размяшчаецца непадалёку ад Віцебска, па Маскоўскай шашы, у мястэчку Фальковічы. Абраз быў знойдзены напачатку XVIII ст. у бярозавым гушчары, на беразе рэчкі, што працякала бліз царквы.

На гэтым месцы быў пабудаваны храм у гонар Нябеснай Абаронцы, у якім знойдзеная ікона праславілася шматлікімі цудамі.

Рэвізійны запіс ад 1785 г. называе ўжо Фальковіцкую ікону Божай Маці старажытнаю і сцвярджае, што яна даўно вядомая сваёй дабрадатнасцю і цудамі.

Пад час Айчыннай вайны 1812 г. Фальковіцкі храм пацярпеў ад французаў. Адзін салдат прыставіў лесвіцу да іконы з намерам зняць з яе шату. І толькі рука святататніка дакранулася да шаты на іконе Божай Маці, як лесвіца абарвалася і, падаючы, салдат атрымаў смяротнае калецтва. Крывавая пляма засталася на падлозе да апошняга часу, пакуль нават афарбаванне падлогі не ў стане знішчыць слядоў праведнага гневу Божай Маці.

Гэты абраз асабліва праславіўся ў 1831 г. У гэты час нечакана пачалася эпідэмія халеры, якая трымала ў жаху ўсё насельніцтва Фальковічаў. Народ звярнуўся па дапамогу да Госпада. Сабраўшыся ў царкву, людзі прасілі святара абысці крыжовым ходам з іконаю Божай Маці мястэчка Фальковічы. Адразу ж пасля крыжовага ходу адчулася абарона Царыцы Нябеснай: смяротнасць у гэтым мястэчку спынілася, і слава пра ікону Божай Маці хутка распаўсюдзілася не толькі ў краі, але і за межамі яго.

Акрамя 15 (28) жніўня, святкаванне Фальковіцкай іконы Божай Маці адбываецца 22 жніўня (4 верасня).



## Э.Сабіла: Я буду рабіць рэвалюцыю на каленях

Нядаўна Беларусь адсвяткавала Божае Нараджэнне паводле каталіцкага і праваслаўнага календароў. У нашых перадачах гучалі думкі і пажаданні з нагоды гэтага вялікага свята святароў і вернікаў ў абедзвюх буйнейшых хрысціянскіх канфесій нашае краіны. А як жа сустракалі Каляды прадстаўнікі трэцяй па велічыні пратэстанцкай дэнамінацыі, з якімі думкамі і спадзяваннямі сустракаюць яны 1997 год ад Нараджэння Хрыстова? Каб атрымаць адказ на гэтыя пытанні, я адмыслова сустрэўся з пастырам Беларускае Царквы Евангельскіх Хрысціянаў Баптыстаў спадаром Эрнэстам Сабілам.

На думку хрысціянаў-баптыстаў, дакладная дата нараджэння Хрыста застаецца невядомай, бо яна не адлюстравана ў Святым Пісьме. Вернікі гэтае Царквы аддаюць хвалу не самому дню нараджэння, а асобе з'явіўшагася на свет Збавіцеля, які, будучы тварцом усяго Сусвету, прынізіў сябе і цярпеў за грахі людзей. Беларускія баптысты святкавалі Каляды і 25 снежня, і 7 студзеня і ўшаноўвалі Божага сына, нягледзячы на супярэчнасці паміж вялікімі Цэрквамі Усходу і Захаду адносна даты яго народзінаў. "Бог Ісус Хрыстос ахвяраваў сабой, каб людзі мелі жыццё вечнае,— гаворыць спадар Сабіла, — і гэта для нас найважнейшая праўда гэтае таямніцы". Што і казаць, бадай больш экуменічнага падыходу да важнейшага хрысціянскага свята цяжка ўявіць, можа быць варта было прыслухацца да думкі свайго хрысціянскага брата кіраўнікам праваслаўнай і каталіцкай Цэркваў ў Беларусі, каб такая другасная рэч, як каляндар, не станавілася падзелам паміж хрысціянскім народам.

Мінулы год быў даволі плённым для актывістаў і святароў евангельскае Царквы. Яна досыць значна вырасла колькасна, прычым у асноўным за кошт прыходу актыўных маладых людзей. Апрача абвяшчэння Слова Божага, апостальскай і місіянерскай дзейнасці, сябры Царквы надаюць вялікую ўвагу перакладу і выданню на беларускай мове рэлігійнае літаратуры. Так, разам з Саюзам баптыстаў накладам у 5 тысяч асобнікаў быў выдадзены "Беларускі духоўны спеўнік", вялікім накладам выдалі чатыры Евангеллі, а таксама актыўна распаўсюджвалі, асабліва ў правінцыі, кніжку Юркі Рапэцкага "Новае жыццё ў Хрысце". Як адзначыў сп. Сабіла, гэтая літаратура карыстаецца попытам у вернікаў, якія разумеюць, што імя Божае будзе праслаўлена ўсімі мовамі і якія хочуць праслаўляць яго па-беларуску, і такіх людзей становіцца ўсё болей. У гэтым годзе, гаворыць пастар, плануецца па частках выдаваць Біблію на беларускай мове, а таксама актыўна прапаведаваць па-беларуску Слова Божае. Актывісты Царквы будуць актыўна супрацоўнічаць з Якубам і Юркам Рапэцкімі, якія збіраюцца наладзіць сталае радыёвяшчанне рэлігійных праграмаў на Беларусь з суседняя краіны. "Нашая задача жыць ціха і рабіць сваю справу,— гаворыць святар,— гэтаму вучыць нас на старонках Новага Запавету святы апостал Павел. У 1-м пасланні да Фесаланікійцаў ён гаворыць: "Бо паклікаў нас Бог не да нячыстасці, але да святасці. Пільна дбайце аб тое, каб жыць ціха і рабіць сваё. Заўсёды радуйцеся, несупынна маліцеся і за ўсё дзякуйце". Многія мае браты па духу, шчырыя беларусы, кажа святар, гледзячы на вялікія цяжкасці, якія перажывае зараз Беларусь, не разумеюць, за што ж выпала такое няшчасце. А калі добра паглядзець на сённяшніх людзей, на тое, як яны сябе паводзяць, то яны вартыя таго, што маюць, дадае спадар Эрнэст. Мы ведаем у Царкве, у які час жывём, і нашую беларускасць на Славу Божую ў нас ніхто не адбярэ. Пастар упэўнены, што сітуацыя, якая зараз пануе ў Беларусі, доўга не пратрывае. У 50-я гады, седзячы ў мардоўскіх палітычных лагерах, ён верыў у тое, што Беларусь будзе вольная і незалежная, і маліўся за гэта, працягвае маліцца за Беларусь і зараз.Як сказаў спадар Сабіла, "я буду рабіць беларускую рэвалюцыю, стоячы на каленях і аддаючы пахвалы Богу — гэта найлепшая зброя". У канцы размовы я задаў яму традыцыйнае для пачатку года пытанне: чаго б ён пажадаў людзям у гэтым годзе? "Паслухмянасці Богу і адданасці Яго волі, — адказаў спадар Эрнэст. — Бо не бачыла таго вока, не чула таго вуха і на розум не прыходзіла таго чалавеку, што Бог прыгатаваў для тых, хто любіць Яго".

А.Н.

## Менск святкуе Хрыстова Нараджэнне

6 студзеня ва ўсіх праваслаўных цэрквах Беларусі пачаліся святочныя калядныя богаслужэнні. Але цэнтральным набажэнствам стала Начное Чуванне ў Менскім Свята-Духавым катэдральным саборы пад кіраўніцтвам мітрапаліта Філарэта, якое транслявала дзяржаўная тэлевізія. Набажэнства пачалося а 18 гадзіне спяваннем святочных псалмоў і трапароў, якія выконвалі два прафесійныя хоры. Прыкладна праз гадзіну з Царскай Брамы сабора выйшаў сам Філарэт і разам з дзесяткам святароў і дыяканаў прайшоў на сярэдзіну храма, каб дабраславіць вернікаў. Дыяканы пачалі прасіць заступніцтва за народ праваслаўных святых. Варта адзначыць, што спачатку ніводны з беларускіх святых, апрача трох Віленскіх пакутнікаў, не быў ўзгаданы, потым, відаць, заўважыўшы недаравальнасць, быў зачытаны спіс сабору беларускіх святых, праўда, пасля ўсіх Сергіяў Раданежскіх, Аляксандраў Неўскіх, мітрапалітаў маскоўскіх, растоўскіх, тамбоўскіх і невядома яшчэ якіх расійскіх святых. Ніводная нацыянальная царква ў свеце сабе такога не дазволіла б, але ў Беларусі ўсё магчыма. Праваслаўныя ерархі не менш "вертыкальных" любяць старэйшага брата і клянуцца яму ў пажыццёвай вернасці. Прыкладам можа з'яўляцца тое ж пасланне экзарха Філарэта на сёлетняе Божае Нараджэнне, зачытанае, дарэчы, у царкве па-беларуску: "...умацоўваюцца з дня ў дзень спакон вечныя духоўна-гістарычныя сувязі Вялікай, Белай і Малой Святой Русі," — гаворыць уладыка. Пазнавальная імперская канцэпцыя трыадзінага славянарускага народа. Праўда, у гэтым жа пасланні і ў звароце Філарэта да праваслаўнага люду на набажэнстве, былі сказаныя і сапраўды духоўныя словы аб тым, што народжаны Збавіцель прынёс у свет мір і любоў. Міру і любові пажадаў ерарх вернікам у новым годзе, міру нашай краіне і ўсяму беларускаму народу.

Пад час начнога набажэнства экзарх Філарэт намасціў святым алеем звыш тысячы вернікаў, а таксама запаліў свечкі ад лямпы з бэтлеемскім агнём, які прынеслі маладыя скаўты. Каля чатырох гадзін працягвалася ўрачыстае богаслужэнне, а глыбокай ноччу распачалася калядная Святая Літургія, якая трывала аж да самае раніцы. Цікава, што ўдзел у святкаванні брала вельмі шмат маладых людзей. На менскіх вуліцах я заўважыў некалькі групаў калядоўшчыкаў. Гэтую моладзь ніхто не арганізоўваў, яны самі вырашылі стварыць сабе свята. "Нам цікава такім чынам бавіць святочны час, — сказалі мне хлопцы і дзяўчаты, — так мы больш адчуваем усю прыгажосць свята". Цэлую ноч працягваліся Богаслужэнні ў царкве Аляксандра Неўскага на Вайсковых могілках, царкве святых Пятра і Паўла на Нямізе і ў іншых храмах беларускай сталіцы.

Альгерд НЕВЯРОЎСКІ.



*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*

*Францішак Багушэвіч.*

## Беларускае адраджэнне

*Алена ЯСКЕВІЧ,*
*кандыдат філалагічных навук*

# "У ПОТОМНЫХ ВЪДАЧНОСТЬ ОТНЕСЕТЪ"
## (Нататкі пра навукова-асветніцкую дзейнасць Памвы Бярынды)

Канец XVI — першая палова XVII стагоддзя, як сцвярджаюць гісторыкі, перыяд "залатога веку" аб'яднанай дзяржавы Вялікага Княства Літоўскага і Каралеўства Польскага, быў для народаў гэтай дзяржавы вельмі няпростым і пакутлівым. Шматлікія памылкі дзяржаўна-культурных і рэлігійных уній, пра што папярэджваў яшчэ ў свой час Пётр Скарга, сталі асабліва відавочнымі.

Светачам веры, які вывеў духоўнае жыццё дзяржавы з перыяду зацяглага заняпаду і антынамічных катаклізмаў, стаў сын малдаўскага гаспадара (караля-князя) Сімяона, ваявода, а-пазней мітрапаліт, Пётр Магіла. Адраджэнне бацькоўскай веры мітрапаліт пачаў са стварэння рэлігійна-асветніцкага асяродку, з лепшых вучняў брацкага львоўскага вучылішча, якіх накіроўваў для атрымання ўсебаковай вышэйшай адукацыі ў лепшыя акадэміі і універсітэты Еўропы. З іх кагорты і выйшлі выкладчыкі знакамітай Кіеўскай калегіі, папярэдніцы славутай Кіева-Магілянскай Духоўнай Акадэміі. Да таго ж, пры Кіева-Пячэрскай Лаўры склаўся вядомы асветніцка-выдавецкі гурток на чале з архімандрытам Елісеем Плецянецкім, у склад якога таксама разам з Іовам Барэцкім, Тарасіем Зёмкам, Лаўрэнціем Зізаніем, уваходзіў і другі славуты сын малдаўскага народа Памва Бярында, таленавіты вучоны-лексікограф, паэт, багаслоў, перакладчык, друкар і гравёр.

Паводле ўскосных сведчанняў з твораў аўтара, даследнікамі выказваюцца меркаванні, што Памва Бярында мог нарадзіцца паміж 50-мі — 70-мі гадамі XVI стагоддзя. У "Трыёдзі цвятной" (1631) згадваецца свецкае імя Бярынды "Павелъ ". Адносна пахождання Памвы Бярынды існуе цэлы шэраг меркаванняў. Многія расійскія духоўныя пісьменнікі, беларускія, румынскія, малдаўскія вучоныя былі схільныя разглядаць Бярынду як выхадца з Валахіі (Малдовы) ці нават Румыніі. У свой час былі выказаныя меркаванні, што Памва Бярында мог быць родам з Галіцыі, Закарпацця, нават Славакіі, а таксама з беларускага Палесся і Падляшша. Відавочна, адукацыю Бярында мог атрымаць у адной з тагачасных брацкіх школ, магчыма, і львоўскай.

Недзе ў 90-х гадах XVI стагоддзя, відаць, пасля драматычных падзей Берасцейскай уніі, Памва распачынае працу ў друкарні Балабанаў па перакладзе і выпраўленні кніг. Паміж 1613 — 1614 гг. Павел Бярында прымае манаскі пострыг пад імем Памва.

У 1616 г. пабачылі свет калядныя вершы (на Ражство Хрыстова) ужо вядомага ў славянскім свеце Памвы Бярынды. У гэтым жа годзе пры падтрымцы архімандрыта Елісея Плецянецкага Памва Бярында рыхтуе да выдання "Анфологію". У час свайго знаходжання на землях ВКЛ у 1620 г. ерусалімскі патрыярх Феафан надае Памве годнасць протасінгела, галоўнага друкара і радцы. На пасадзе "архітыпографа" П. Бярында рэдагаваў і перакладаў многія з выданняў Кіева-Пячэрскай Лаўры: "Анфалагён" (1619), "Намаканон" (1620), "...Іоанна Златоустаго бесѣды" (1623), "Тлумачэнне святога Андрэя Кесарыйскага на Апакаліпсіс" (1625), "Трыёдыён" (1627), "Павучэнні авы Дарафея" (1628).

У складзе пасольства Памва Бярында наведаў Маскву, быў прыняты царом і патрыярхам, якім і падараваў кнігі ўласныя і пад яго кіраўніцтвам надрукаваныя.

Справай жыцця П. Бярынды, што і прынесла яму не толькі агульнаеўрапейскую, але і сусветную вядомасць і славу, была падрыхтоўка (30 гадоў) "Лексікона славенароскага і імёнаў талкавання", які быў коштам аўтара выдадзены ў 1627 г. у Кіева-Пячэрскай Лаўры.

Варта згадаць, што славуты асветнік шмат падарожнічаў па Блізкім Усходзе, жыў нават у Іерусаліме. Слоўнік здзіўляе багаццем энцыклапедычна-даведачнага матэрыялу, у ім паведамляецца чытачу пра Арктыку, Малую Азію, Турцыю, Палесціну, Лівію і Каўказ. Акрамя расійскай, польскай, чэшскай, славацкай, сербскай, харвацкай, венгерскай, нямецкай, грэцкай, лацінскай, беларускай, украінскай, царкоўнаславянскай лексікі, у складзе "Лексікона славенароскага" шмат слоў з розных усходніх моў. Слоўнік меў такі шырокі попыт і ашаламляльны поспех, што ў 1655 годзе выйшаў паўторным выданнем.

Да апошніх імгненняў свайго жыцця — 23(13) ліпеня 1632 г. Памва Бярында працаваў над падрыхтоўкай новай рэдакцыі царкоўнаславянскай Бібліі, лексічным падмуркам якой і з'яўляўся "Лексікон славенароскі".

Л і т: Wiczniewski M. Historya literatury polskiej. Kraków, 1851. T. VIII; Воейковъ Николай Н. Церковь, Русь и Римъ. Джорданвилль, Свято-Троицкий Монастырь, 1983; Давня українська література. Київ, 1991; Житецкий П. Очерк литературной истории малорусского наречия в XVII в. Киев, 1889; Лексикон словеноросьский Памви Беринди. Київ, 1961; Німчук В. В. Староукраїнська лексикография в її зв'язках з російською та білоруською. Київ, 1980; Словарь исторический о бывших в России писателях духовного чина греко-российской церкви. Спб, 1827. Т. 2. Изд. 2; Старабеларускія лексіконы. Мн., 1995; Суднік М. Р. Гісторыя ўзнікнення і этапы развіцця беларускай лексікаграфіі старажытнай пары // Працы Інстытута мовазнаўства АН БССР. Вып. IV. Мн., 1957; Сычевская А. І. Памва Бярында и его Вирши на Рождество Христово и др. дни. Киев, 1912; Яскевіч А. А. Словам скароны свет. Мн., 1995.

## Ствараем энцыклапедыю "Новай зямлі"

# Суседскія пераклады

*(Працяг.)*

Неўзабаве пасля вяртання ў Менск пасля вайныЯкуб Колас пачаў старацца пра пераклад сваёй паэмы "Новая зямля" на расійскую мову. У лісце свайму сябру перакладчыку Сяргею Гарадзецкаму 28 верасня 1945 года Якуб Колас пісаў: "...уладкоўваю пытанне з перакладам "Новай зямлі". Беларускае выдавецтва ўключыла яе ў план 1946 года. Сягоння буду ў т. Гарбунова па гэтым пытанні".

Даводзілася старацца не толькі пра выданне, але і пра пераклад. Даў сваю згоду Міхаіл Ісакоўскі. Якуб Колас пісаў яму 6 кастрычніка: "Мяне вельмі ўзрадавала Ваша жаданне аднаму перакласці на рускую мову маю паэму "Новая зямля". Той факт, што Вы цяпер перакладаеце амаль палавіну, а можа быць, і больш за палавіну паэмы, гаворыць за тое, што неўзабаве Вы перакладзяце і другую частку паэмы, чаму я буду вельмі рады.

Выпісаныя Вамі словы і выразы, што патрабуюць некаторага аўтарскага тлумачэння, сведчаць пра ўсю сур'ёзнасць, з якой Вы прыступаеце да працы..."

На жаль, М. Ісакоўскі, згадзіўшыся перакладаць "Новую зямлю", неўзабаве захварэў і вымушаны быў адмовіцца ад далейшай працы. Ён паспеў перакласці раздзелы "Зіма ў Парэччы", "На рэчцы", "Каляды" і "Таемныя гукі".

Якуб Колас, верагодна, узважваў магчымасць поўнага перакладу паэмы іншымі расійскімі паэтамі. Адным з найбольш дасведчаных быў Сяргей Гарадзецкі. Ён, верагодна, таксама згадзіўся пачаць нялёгкую працу. 24 лютага 1946 года ў лісце да яго Якуб Колас пытаўся: "Як прасоўваецца праца над перакладам "Новай зямлі"?"

Але праца ішла марудна. Праз паўгода народны пясняр Беларусі ў лісце да сябра ўсё яшчэ пытаўся: "Як справа з перакладамі? Калі яны будуць гатовыя канчаткова?" Якубу Коласу давялося пазней, у лісце ад 21 ліпеня 1947 года, тлумачыць некаторыя незразумелыя С. Гарадзецкаму словы, а 3 жніўня адказваць на "твае 30 пытанняў". Такім чынам, Якуб Колас слушна зрабіў выснову, што "работа над удасканаленнем перакладу толькі пачынаецца", а прайшоў жа значны час, ды і выдавецкі план праваліўся.

Такая затрымка з перакладам С. Гарадзецкім "Новай зямлі", відаць, залежала не толькі ад незразумеласці беларускіх слоў паэмы.

*(Працяг будзе.)*

**Здзіслаў СІЦЬКА.**

## Скарб

# Хатняе заданне

Леташнія падзеі, як здаецца, паказалі беспадстаўнасць спрэчак пра выбар варыянта нашай літаратурнай мовы. Боязь прыхільнікаў наркамаўкі, што беларусы адвернуцца ад "незразумелай", "чужой" тарашкевіцы, можна сказаць, не мела падставы. Нашыя суайчыннікі выракліся і сучаснай літаратурнай беларускай мовы, што знаёмая ім з школьных падручнікаў, кніг, газетаў ды часопісаў. Няма падставаў лементаваць, што "не будуць чытаць", што "трэба будзе перапісваць слоўнікі", што "настаўнікі не ведаюць..." Як пішуць нашыя чытачы, ёсць і такія выкладчыкі беларускай мовы і літаратуры, што гатовыя задушыць і наркамаўку.

Мабыць, не пра тое мы спрачаліся мінулымі гадамі. Відаць, усё ж неабходна пачынаць ад слова — ab ovo. І з гэтага залатога яечка беларушчыны, зладжанага, выштукаванага за тысячагоддзі існавання нашага народа, мусіць зрадзіцца не пачвара-цмок, з якога не будзе карысці ні нам, ні людзям. "З белага камення, з жоўтага воску" (гэта частка загадкі пра пеўня) народнага слова мусіць нарадзіцца прарок, які будзе пракаці — "людзі будуць з мёртвых уставаці".

То трэба ўсім аматарам матчынай мовы сама перш сабраць і захаваць наш скарб — родныя словы. Асабліва гэта актуальна сёння, калі выгнаны з свайго котлішча Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа. А да таго ж, ягоную картатэку — мільёны картак-слоў — выкінулі, можна сказаць, у сутарэнне будынку ў Батанічным садзе. Ды калі так будзе "ўсур'ёз і надоўга", то можна ўявіць, што ад той картатэкі застанецца.

Што ж нам у гэтай сітуацыі рабіць? Самім збіраць словы, сама перш адметныя, мясцовыя, у тым ліку і назвы паселішчаў, урочышчаў. Добры прыклад ужо ёсць. Летась мы надрукавалі цікавыя нататкі Мазура з вёскі Дуброва Шацілкаўскага (Светлагорскага) раёна пра тапонімы родных ваколіцаў. Сапраўдны скарб сабраў і Вячаслаў Мілкоўскі, сябра рады каардынатараў руху "Беларускі інтэлектуальны рэсурс", частку якога падалі ў "Нашым слове" летась (№ 33).

Мяркую, што добра будзе кожнае адметнае слоўца пісаць на асобнай картцы (памерамі роўнай бібліятэчным карткам) — так лягчэй будзе пасля каталагаваць і апрацоўваць. Да кожнага слова на гэтай жа картцы абавязкова трэба дадаць "пашпарт": значэнне; кантэкст (сказ), у якім яно было ўжыта; ад каго пачутае (пажадана занатаваць узрост рэспандэнта); адрас мясцовасці, а таксама сваё меркаванне пра слова.

У нас 2292 падпісчыкі і актыўныя чытачы. Калі кожны збярэ і занатуе за год хоць бы дзесяць слоў (а гэта зусім рэальна, бо адных толькі мікратапонімаў дзесяткі), то праз дзесяць гадоў будзем мець звыш 200000 картак-слоў. Калі ж пашанцуе, і болей набудзем, нашыя нашчадкі толькі дзякуй нам скажуць.

Дык за справу!

Памажы, Божа!

**Здзіслаў СІЦЬКА.**

*Мікалай Крыўко*

# Слоўнік сінонімаў

**ПРАДЗЕННЕ** (дзеянне паводле дзеяслова **прасці** са знач. 'скручваючы воўну, лён і пад., рабіць ніткі'; занятак жанчыны, якая прадзе) *Прыпеўкамі суправаджаліся хатнія работы — прадзенне, шаткаванне капусты і г.д., яны таксама выконваліся, калі моладзь збіралася на вячоркі* (Цішчанка), **ПРАДЗІВА** [*Аўгінцы*] *трэба знайсці нейкую прычыну, каб кінуць сваё бясконцае, да краю абрыдлае прадзіва і выбегчы на вуліцу* (Зарэцкі). *Прасніца яе была яшчэ на гары (прадзіва толькі пачыналася), і Ганька палезла па яе* (Васілевіч). *Кожны раз мама ўспамінае майго дзеда Рыгора: ці то як бярэцца за шытво ці прадзіва, ці як садзіцца абіраць бульбу* (Пальчэўскі), **ПРАЛЛЕ** размоўнае *Дзед лапці плёў, баба, нібы ў казцы, за пралле сядала* (Кулакоўскі).

**ПРАДЗІВА** (тое, што спрадзена, або воўна, лён і пад., прыгатаванае для прадзення) *Многа трэба прадзіва, каб столькі сукна саткаць* ("Беларусь"). *Нарэшце, вільготнасць паветра, асабліва ў Ланкашыры, надавала прадзіву неабходную эластычнасць* ("Эканамічная геаграфія зарубежных краін"), **ПРАЛЛЕ** разм. *А правады ўсцяж вёскі, Як пралле для красён* (Маркевіч).

**ПРАДЗЬМУЦЬ** (безасабовае; выклікаць хваравіты стан, прастуду дзеяннем падвею, ветру) *Не ведаючы, з чаго пачаць гаворку, я сказаў: — Тут фортачка. Прадзьмуць можа* (Шыловіч), **ПРАНЯЦЬ** *Не стой на такім скразняку, пройме. Ледзь ужо не плакала* [*Ліпачка*], *гэтак яе праняло холадам, але маці, ці то яна не бачыла Ліпаччынага ссінелага твару, не звяртала на дачку ўвагі* (Сабаленка), **ПРАХАПІЦЬ** разм., узмацняльнае — *Прахопіць вясновым скразняком, і здароўе вага можа скруціць, а ты, голубе, зараз, як пісклянё, кволы* (Машара), **ПРАХВАЦІЦЬ** разм., узмацн. *Мяне прахваціла на скразняку. Прахваціла ветрам старога,* **ПРАСВІСТАЦЬ** разм. (безас.; моцна апрадзьмуць ветрам) [*Алёша*]: — *Апранацца трэба добра, а то прасвішча* (Лобан). [*Вілюевіч*]: — *Учора на машыне мяне ветрам так прасвістала* (Грамовіч). — *Незаконччанае трыванне:* **Прадзімаць, праймаць, прахопліваць і прахапляць, прахватваць, прасвістваць.**

**ПРАДЗЯЎБЦІСЯ** (пра птушанят: вызваліцца ад шкарлупіны) *Усе кураняты прадзяўбліся з яек,* **ПРАКЛЮНУЦЦА** разм. *Гусяняты праклюнуліся. Улетку на гняздзе з'явіліся бусляняткі — два брацікі і сястрыца. Як толькі праклюнулася першае, бацька заклекатаў ад радасці і паляцеў шукаць спажыву маленькаму* (Пальчэўскі). **ПРАЛУПІЦЦА** разм. *Кураня пралупілася,* **ВЫЛУПІЦЦА** *А яны кураняты зусім яшчэ слабенькія, толькі вылупіліся* (Курто). *Лебедзяняты вылупіліся з яек і пад наглядам бацькоў шукаюць корм у вадзе* (В. Вольскі), **ВЫКЛЮНУЦЦА** разм. — *Не! Не! Жывая, я ў руку браў яе* [*птушку*], — *адказаў мужчына, — пад ёю чатыры маленечкія рабенькія яечкі. Мабыць, хутка выклюнуцца птушаняткі* (Сабаленка). — *Незак.:* **Прадзёўбвацца, праклёўвацца, пралупліцца, вылуплівацца, выклёўвацца.**

**ПРАДКАЗАЛЬНІК** (той, хто прадказвае будучае) *Напрыклад, у ЗША ёсць каля ста тысяч варажбітоў і прадказальнікаў лёсу* ("Пытанні рэлігіі і атэізму"). *Вышэй за ўсіх багоў шанаваў ён Апалона, які лічыўся прадказальнікам будучага* (Скварцоў-Сцяпанаў), **ПРАДРАКАЛЬНІК** *Прадракальнік чыйго-небудзь лёсу,* **ПРАРАКАЛЬНІК** устарэлае, **ПРАРОК** *Запанавала цішыня, але Малец чамусьці ўспомніў перарваную ўжо каторы раз размову, спытаўся ў Ярошкі: — Слухай, прарок, а чаму ты мне не пагадаў наконт грошай?* (Дамашэвіч), **ВЯШЧУН** *Словы вялікага вешчуна спраўдзіліся на Сабалеўскім, быццам ён (Міцкевіч) спецыяльна пісаў для яго* (Машара). *У вершы "Прарок" вяшчун радаснага будучага "прыляцеў з-за святлейшых старон", ён нават па паходжанню з іншага асяроддзя* (Каваленка).

— **Прадказальніца, прадракальніца, праракальніца, прарочыца, вяшчунка і вяшчунне.**

## Спорт

### Універсіяда-97

15 студзеня нацыянальная студэнцкая зборная каманда Беларусі накіравалася ў Карэю на сусветнае спаборніцтва студэнцкіх каманд.

У яе складзе 9 спартоўцаў, якія выступаюць у пяці відах спорту: лыжных гонках, двубор'і, скачках з трампліна, каньках, фігурным катанні. У складзе дэлегацыі — уладальнікі залатых медалёў мінулай універсіяды Сяргей Захарэнка і Аляксей Трыгубаў. З мінулых спаборніцтваў нашая каманда прывезла два залатыя і адзін срэбны медаль. На падобны вынік спадзяюцца і зараз. На жаль, у камандзе няма нашых біятланістаў. Прычына досыць банальная — ніхто са страляючых лыжнікаў не з'яўляецца студэнтам стацыянара, а гэта абавязковая ўмова ўдзелу ў падобных спаборніцтвах.

### Футбол

Паразай скончылася першая спроба сіл мазырскай каманды МПКЦ на штучным газоне маскоўскага манежа "Дынама" супраць новарасійскага клуба "Чарнаморац". Мазыран чакаў поўны разгром — 0:4, прычым два мячы ў браму землякоў забіў былы форвард клуба "Маладзечна" Вяжэвіч.

### Міні-футбол. Кубак Беларусі

Аматары футбола не хочуць забываць пра яго і ўзімку, калі ў разгары барацьба ў хакеістаў, лыжнікаў ды канькабежцаў. Праўда, на вялікім полі гуляць цяпер не вельмі, таму ўвага пераключылася на мініфутбол, які бывае не меней цікавым. А па імклівасці падзей напружвае нервы балельшчыкаў іншым разам нават болей, чымсь "вялікі". Цяпер міні-футбалісты ў канцы студзеня будуць змагацца за Кубак Беларусі. Кубкавыя матчы яшчэ тым цікавыя, што з камандамі першай лігі могуць змагацца футбалісты з ніжэйшага дывізіёна. І тут часам барацьба разгараецца не на жартачкі. Так, у Зэльве мясцовая "Энергія" была блізкая да перамогі над аднаклубнікамі з Менска.

Паўфінальныя гульні на Кубак краіны па міні-футболе адбудуцца 1 лютага і пройдуць у спортзале Беларускай політэхнічнай акадэміі і ў спорткомплексе СКА ва Уручча. Фінал — 2 лютага.

Сенсацыяй скончыўся першы матч фіналу суперкубка Еўропы паміж французскай камандай "Пары-Сэн-Жэрмэн" і італьянскім "Ювентусам" з Турына. Італьянцы разграмілі французаў на іхнім полі амаль з астранамічным лікам — 6:1.

### Баскетбол

17 студзеня пачаўся трэці тур першынства Балтыйскай жаночай баскетбольнай лігі. У госці да менскага "Гарызонта" прыехалі дзве летувіскія і адна латвійская каманды. Апрача гэтага, плануецца правесці тры тэварыскія гульні паміж маладзёжнымі зборнымі Беларусі і Летувы. Пасля двух тураў першынства становішча менскіх дзяўчат не вельмі ўпэўненае. З 7 ачкамі яны займаюць апошні чацвёрты радок турнірнай табліцы.

### Хакей

З лікам 1:1 скончылася чарговая гульня Еўрапейскай хакейнай лігі паміж менскай камандай "Цівалі" і рыжскім "Юніярсам". Першымі лік адкрылі рыжскія хакеісты, калі на 33-й хвіліне Хромчанкаў выкаціўся на браму гаспадароў і закінуў шайбу. Менскія хакеісты адыграліся ў трэцім перыядзе, шайбу ў браму латышоў правеў Чух.

**Падрыхтаваў А.Н.**



У Кастрычніцкім раёне Гомельскай вобласці нядаўна створаны цэнтр гісторыі і культуры. Адзін з раздзелаў цэнтра будзе прысвечаны развіццю рамёстваў у раёне. **На здымку:** Агляд экспанатаў, прывезеных з чарговай экспедыцыі па раёне. **Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БелТА.**

*У старых фаліянтах*

## Рысь і Рысянятка

Даўней убогія шляхцюкі, не маючы з чаго жыць, або духоўнага сану стараліся, або ў войска ішлі, бо займацца рамёствамі ці гандляваць ім не дазваляў гонар. А там ужо як вецер павее. Фартуна, кажуць, колам коціцца. І часам так было, што шарачковы шляхціч і да крэсла дабіраўся, з княжатамі радніўся, не кажучы ўжо пра ордэны. Але не выпадкова, бо хоць і не багата стану, ды гонар свой шанаваў.

На схіле XVIII стагоддзя жыў у Нясвіжы славуты арганіст Рысь. Называлі яго жартам, як і Радзівіла, ардынатарам Нясвіжскім, бо быў у пятым ці шостым калене арганістам фарнага касцёла. І гэтая ягоная пасада давала яму не найгоршы кавалак хлеба. Меў з паўвалокі ворнай зямлі, і сенажаць добрую, і садок побач з сядзібай, а да таго трыста тынфаў, якія ад нясвіжскага кагалу былі прызначаныя. Асаблівых выдаткаў не меў, хіба што на святочны ўбор, бо ў будзень хадзіў у шарачку. Ды ўжо калі за князя гетмана шэры канец стала садзіўся, то выглядаў нябрага: кантуш з чорнага аксаміту, атласны жупан таго ж колеру, пас з сакваю, срэбрам тканы, а зверху з чорнага крэпу кароткі плашчык, падобны на шырокі шалік, ды дактаратка — берэт. Гэтыя дзве апошнія часткі ўрачыстага строю былі прыкметай арганістых, бо яны, касцёльныя служкі, не насілі шаблі. Рыся вельмі любіў князь гетман, але больш брат ягоны, князь харужы, які і сам добра граў на аргане, услаўляючы Бога ў сваёй Койданаўскай капліцы, а таму называў Рыся калегам. Ды і Рысі, хоць і бедныя, былі з добрага роду, нават таго самага герба, што і Пацеі, да належных дакументаў прыкладалі. А не без таго, каб, апроч сваёй арганістага навукі, не быў з кнігамі знаёмы, як людзі вышэйшага свету. Аднойчы яснавяльможны Рэйтан, навагарадскі падкаморы, прыехаў у Нясвіж дзеля размеркавання езуіцкага маёнтка Рудаўкі ды запрасіў у сваю палявую карчму пад дваццаць гасцей. І арганіст Рысь у дактаратцы сядзеў за сталом. У бяседзе падкаморы вазьмі ды запытайся, чаму гэта Божае Нараджэнне рэгулярна 25 снежня прыпадае, а вось Вялікадзень раз таго дня, раз другога. Задумаліся госці моўчкі, адзін толькі Рысь усміхаўся. То да яго і звярнуўся Рэйтан, каб патлумачыў арганіст, калі ж тут ксяндза не было.

— Nemo sapiens nisi patiens, яснавяльможны пане, * — адказаў Рысь, пакланіўшыся.— Два гады трэба хадзіць на тэалогію, каб зразумець, што такое каляндар, і то яшчэ дай Божа.

— А мы тэалогіі не ведаем, то чаму ж арганіст нам па-цівунску не вытлумачыць? Калі ж нам выпадае тлумачыць бабе права, хоць тая першы раз палестранта звярнулася, мы неяк умеем зрабіць права даступным дзеля яе мазгаўні. Бо хто сам ведае, як трэба, той лёгка вытлумачыць несвядомым.

— Калі ж жадаеце, яснавяльможны, вытлумачу. Каляндар перадае дзеля зямлі тое, што Пан Бог напісаў на небе, бо кожная зорка літара. Пад час перасілення дня і ночы канонікі чытаюць на небе, а што вычытаюць, тое і запішуць,— з таго і каляндар, і кантычкі. Бо ўсё ў касцёле закручана, як гадзіннік: канонікі пішуць, плебаны чытаюць, арганістыя спяваюць і граюць, вернікі паўтараюць...

— Вялікі з васьці мудрэц, як бачу, пане арганісты. З чым і віншую. Тых, хто васьця зразумеў, а яшчэ больш таго, хто з такім шматлікім алфавітам дае сабе рады, што ў чытанні не памыліцца.

— І вельмі памыляюцца, яснавяльможны. Не вычытаўшы, як трэба, абяцаюць на дзень той ці гэты пагоду, а тым часам дождж, нібы на злосць. Не трэба далёка шукаць, сёлета, як запэўніваў "Віленскі каляндар", грэчка мелася ўрадзіць, а суш яе так высмаліла, што надоечы на кірмашы ў Сталовічах за асьміну тры тынфы плаціў. А ўсё таму, што віленскі біскуп паехаў у Рым, а канонікі без пастыра абы як чыталі.

Пан падкаморы з такога тлумачэння паехаў са смеху, бо сам быў вучоны. Ды не аднаму з прысутных Рысь клёпкі ў галаве памацаў, бо тую гісторыю доўга яшчэ паўтаралі ў Нясвіжскім палацы.

*(Працяг будзе.)*

**Байку Генрыха Равускага пераказаў З.С.**

* *Хто колькі мае цярплівасці, столькі і мужнасці.*

## Даты і падзеі ў студзені

**22** — 134 гады таму ноччу на 23 студзеня пачалося паўстанне 1863 — 1864 гадоў у Польшчы, Беларусі ды Летуве. Працягвалася 15 месяцаў, на беларускіх абшарах адбылося каля 240 бітваў і сутычак.

— 80 гадоў таму (1917) В.Вільсан, прэзідэнт ЗША, прапанаваў стварыць Лігу Нацый (папярэднік сучаснай ААН).

— 80 гадоў з дня нараджэння спевака Мікалая Ворвулева, народнага артыста СССР.

— 60 гадоў з дня нараджэння мастака Юрыя Зайцава.

**23** — 75 гадоў з дня нараджэння мастака Мікалая Федарэнкі.

**24** — 100 гадоў з дня нараджэння В.Купрэвіча, батаніка, акадэміка, прэзідэнта АН Беларусі (1952—1969).

— 85 гадоў таму Якубу Коласу, звольненаму з турмы ў 1911 годзе, адмовілі выдаць пасведчанне аб палітычнай дабрадзейнасці.

— 75 гадоў таму Янка Купала напісаў верш "Перад будучыняй".

**25** — 335 гадоў таму (1662) у Слуцку зацверджаны пякарскі цэх.

**26** — 125 гадоў з дня нараджэння (1872) М.Малюшыцкага, аграхіміка, раслінавода, акадэміка АН Беларусі.

— 90 гадоў з дня нараджэння (1907) пісьменніка Івана Шапавалава.

— 60 гадоў з дня нараджэння (1937) мастака-прыкладніка Леаніда Панамарэнкі.

— 70 гадоў таму (1927) на пасяджэнні "Общества любителей российской словесности при Государственном Московском университете" правадзейным членам гэтага таварыства быў аднагалосна абраны Якуб Колас.

**27** — 200 гадоў таму (1797) Андрэй Тадэвуш Банавентура Касцюшка, былы вязень царскага ўрада, па дарозе ў ЗША прыехаў у Стакгольм, дзе яго віталі і прымалі як вялікага дзяржаўнага мужа.

— 55 гадоў таму (1942) памёр Фларыян Ждановіч, кіраўнік і рэжысёр "Першага таварыства беларускай драмы і камедыі" (ідэя ўзнікла ў 1913 г., арганізавана ўвесну 1917 г.), знакаміты акцёр і рэжысёр БДТ.

**28** — 420 гадоў таму (1577) Мазыр атрымаў герб: у блакітным полі чорны аднагаловы арол з сярэбранай шыльдай на грудзях, на якой — чырвоная літара S.

— 100 гадоў з дня нараджэння пісьменніка Валянціна Катаева.

*Да 150-годдзя з дня нараджэння Якуба Наркевіча-Ёдкі*

— 105 гадоў таму (1892) наш славуты навуковец і даследнік выступіў з дакладам на пасяджэнні Таварыства вясковых гаспадароў у Санкт-Пецярбургу. Ён распавёў пра вынікі сваіх доследаў уздзеяння электрычнасці на рост і развіццё збажыны ды іншых раслінаў.

**29** — 445 гадоў таму (1552) сыну Францішка Скарыны была выдадзеная грамата Фердынанда І на права наследавання бацькавай маёмасці. У грамаце згадваецца, "што доктар Францішак Рус Скарын з Полацка, садоўнік наш, які жыў тут, з'яўляецца чужаземцам у чэшскім каралеўстве, памёр і пасля сябе сына Сіманона Руса і некаторыя маёмасць, лісты... ды іншыя юрыдычныя дакументы пакінуў". У пераліку маёмасці згадваюцца і кнігі.

— 30 гадоў таму беларускія газеты ўспомнілі пра адзін з шматлікіх загадаў Напалеона, у якім загадвалася ўтапіць у Дняпры нарабаваныя каштоўнасці. Але скарб нібы быў выкінуты ў возера непадалёку ад Крупак.

**30** — 405 гадоў таму (1592) кардынал Іпаліта Альдарандзіні, папскі нунцый у Рэчы Паспалітай, быў абраны папам — Кліменціем VIII. Ён санкцыянаваў стварэнне ў РП уніяцкай царквы, а таксама выданне выпраўленага тэксту Біблії, вядомай пад назвай "Вульгата" (пазней называлі яе "Кліменціна").

— 330 гадоў таму (1667) паводле Андрусаўскага замірэння паміж Рэччу Паспалітай і Маскоўскай дзяржавай "... з завяваных гарадоў і земляў уступленны ў бок яго каралеўскай вялікасці гарады і месты: Полацак, Віцебск, Дзінаборк (цяпер Даўгаўпілс), Люцін, Рэзіца, Марнаус з усімі Ліфлянтамі паўднёвымі, і з усімі тых гарадоў усіх іменаваных паветамі, здаўна да іх належнымі, апроч Веліжа, здаўна да Віцебска належнага".

— 75 гадоў з дня нараджэння Галіны Ісаевіч, майстра прыкладнога мастацтва.

— 75 гадоў таму заснаваны Інстытут беларускай культуры (Інбелкульт), пазней ператвораны ў Акадэмію навук Беларусі.

**31** — 105 гадоў з дня нараджэння паэта Алеся Гурло.

**У студзені:**

— 680 гадоў таму (1317) памёр Альгерд — знакаміты вялікі князь Вялікага Княства Літоўскага.

— 405 гадоў таму (1592) браты "Дзмітры, Канстанцін, Іван, Фёдар Чачоты дамовіліся падзяліць бацькаву зямлю ў маёнтку Ярашова Чачотавым" (цяпер Баранавіцкі раён.)

— 375 гадоў таму (1622) Лісоўчыкі — славутыя беларускія гусары палкоўніка К.Лісоўскага — трапілі ў Нямеччыну, дзе ўдзельнічалі ў 30-гадовай вайне.

**Падрыхтаваў З.С.**

## І смех і грэх

*Пачутае "У Лявона"*

### Дыялог

— Тыя, што маюць грошы, купляюць сабе машыны.
— Тыя, што не маюць грошай, паміраюць іншым спосабам.

### Нагода

Афіцыянт прыносіць бывальцу шынка вячэру. А той заўважае, што на талерках надта мала ежы:
— Нешта ў вас значна зменшаныя порцыі?
— Так, мы ўдзельнічаем у конкурсе эканомных.

### Меркаванне

Бывалец шынка старэйшага веку пытае свайго равесніка:
— Што ты думаеш пра гэтыя мініспадніцы?
— О, гэта вельмі дорага мне абышлося. Мусіў купіць сабе новыя, мацнейшыя акуляры.

*Афарызмы*

Жыццё мае тую вартасць, якую хочаш яму даць.
*Інгмар Бергман.*

Злучаюць нас усіх хваробы, а дзеліць здароўе.
Славамір Урублеўскі.

Не выключана, што ўваскрашэнне душы пасля смерці можна ўявіць у з'яве фенамену памяці.
*Марсель Пруст.*

Жыццё кароткае, мастацтва доўгае, аказіі імгненныя, вопыт прывідны, а прысуд цяжкі.
*Гіпакрат.*

Жанчыны стануць сапраўды роўныя мужчынам толькі тады, калі пагодзяцца быць лысымі.
*Альфрэд Капу.*

Ахвяры ёсць, бо існуюць каты.
*Франц Кафка.*

*Пры перадруку спасылка на NS абавязковая*

Наша Слова (4)

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.
Індэкс 63865. Замова 96 Наклад 2292 паасобнікі.

Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку". 220041, г.Менск, пр. Ф.Скарыны, 79.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Падпісана ў друк 22.01.1997 г. у 15 гадзін.